*Няхай жыве саюз рабочых і сялян!*

# ЧЫРВОНЫ СЕЙБІТ

ДВУХТЫДНЁВЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ДАДАТАК ДА „БЕЛАРУСКАЙ ВЁСКІ“

**№ 18-19.** Кастрычнік-лістапад 1927 г. **№ 18-19.**



**Мітынг на версе яшчэ няскончанага будынку дому селяніна**

---




## З угодкавых настрояў

ЯНКА КУПАЛА

1

Як пабег тады той
Вокліч ды па хатах...
— Гэй, на сход сыходзься!
Дзень ідзе расплаты.

Выпала часіна
Падвясьці зьлічэньне
Крыўды векавечнай,
Вечнага цярпеньня.

Помстай за зьняваг
Ды за катаваньне
Дзякаваць удзячна
З вечара да раньня.

Кузьні і палеткі
Чысьціць днём і ночай
Ад крыві мужыцкай,
Ад крыві рабочай.

Хай дымяць пажары
Тут і там крывава,
Каб было скрозь відна,
Як ідзе расправа.

І ўздрыгнуў сатрапа,
Задрыжаў багаты,
Як пабег тады той
Вокліч ды па хатах.

2

„Ад Тайгі да Брытанскіх марэй“
Ходзяць ходам бунты;
Ад магнацкіх, ад панскіх дзьвярэй
Затрашчэлі шпунты.

Уцякай, хто пухам апух,
Падкасаўшы полы!
Бо збудзіўся збунтараны дух,
Бо йдзе босы, голы.

Як у высі ў вырай плылі,
Гагаталі гусі,
А ў нізе гнуўся лес да зямлі,
Нібы старац гнуўся.

Дзе сякуць, там лятуць шчэпкі проч,
Соладка ці горка:
Дзе прапала кароўка за ноч,
Прападай вяроўка.

Ірзуць коні, калёсы скрыпяць
Ад Дону да Бугу,
Калі гнаць, то ўжо гнаць аж у гаць,
Расьпінай папругу.

Ня прыставіш да сьценкі, цябе
Аж да дзьвюх прыставяць,
І ніхто ні ў мальбе, ні ў кляцьбе
Ад пятлі ня збавіць.

Гэй, каваль! дзьмі ў мяхі, а сталь грэй
Да самага грунту!..
„Ад Тайгі да Брытанскіх марэй"
Ходзяць ходам бунты.

3

Ня елася, ня спалася,
Куды і падвяселіцца!
Як гэта раскілзалася
Чырвоная мяцеліца.

Ідзе моц непаказная,
А сьледам—кпіны, гоманы,
Як тыя дымы чорныя
Над пушчаю паломанай.

Шушукалі, хіхікалі
Падсуседзі дасужыя,
Назад вярнуцца клікалі—
З натугі, бач, ндужае.

— Куды вам лезьці з віламі?—
Так пальцам з боку тыцкалі:
Як выйдуць проць з кралямі
Ды з кулямі англіцкамі.

Ня справіць вам уходзінаў
На новае паселішча,
А сьцежка вамі пройдзена
Аберніцца ў папелішча.

Супроць сусьветных правілаў
Ня вам ісьці з паходняю...
Так сыкала, так правіла
Падсуседзтва прыгоднае.

4

Уцякала за ночкаю ночка
За горы,
Паласкаліся ў росах чырвоных
Разоры.

Запалялася сонца аб сонца
Агніста,
Пасыпаліся косьці пасыпкай
Вячыстай.

Рассыпаліся прыскам палацы
У вежы.
Гудам водгульле-рэха ляцела
За межы.

А з-за межаў—чужынцы, як злыдні
На пашу,
Каб суняць вызваленьне і помсту
Паўсталўшых.

---

# На ўсё ёсьць прычына

**Казка**

**Якуб Колас**

І на балотах здараюцца часамі цікавыя рэчы. А пра адно такое здарэньне проста такі варта расказаць. Калі нават гэта і ня ўсё праўда, то і тады яно цікава, прынамсі на мой погляд.

І цікава тут вось што: часамі самыя простыя рэчы пры пэўных абставінах паказваюцца страшэнна заблутанымі, завязанымі ў такі вузел, што і разьвязаць нельга.

Стаяў на балоце дуб, стаяў многа вякоў, учапіўшыся за грунт карэньнямі-пружынамі. Многа бур пранеслася над галавою дуба-волата, і буры яго не здалелі. Але час браў сваё. Пачаў дуб старэць і загніваць з сярэдзіны, а зьверху засыхаць.

Раз пад восень наклалі пастушкі агню на балоце. Вы яго напэўна і ведаеце, балота гэтае. Аб ім нават і кніжок напісана многа. Хтось з пастушкоў — не дарма-ж і сьвет з іх гарыць—засунуў у дубовае жарало галавешку з агнём. Пачало тлець трухлявае нутро старога дуба. Тлела, тлела, а потым разгарэўся агонь і забраў такую сілу, што дуб перагарэў і зваліўся ды так бразнуўся, што аж балота здрыгнулася.

Выпадак з старым дубам быў такім неспадзяваным, што ўсё балотнае грамадзтв прышло ў нязвычайны рух стан наймацнейшага зьдзіўленьня.

— Скончэньне сьвету!— сьвіснуў бакас і кінуўся хавацца ў куст.

Перапалоханыя вароны пазьнімаліся з балота і чорным невадам замітусіліся ў небе. Іх моцна ўразіў грук дуба і самае тое здарэньне, што дуб паваліўся, і яны крычалі:

— Бразь! бразь!

Яны не знаходзілі інш слова, каб выказаць нязвычайнае хваляваньне. крумкач, як нейкі важны дотар, падляцеў да таго месц, дзе стаяў дуб, крутнуў разы сваім дзябёлым панск носам і констатаваў гэ няшчасны факт адным гол

Тры-чатыры так восені шчэзьлі
Руінай,
Як змага ьне ішло пераможна,
Няспынна.

Уцякала за ночкаю ночка
За горы,
Паласкаліся ў росах чырвоных
Разоры.

5

Зацымбалілі цымбалы,
Забубнелі бубны,
Як верталіся з паходу,
З бойкі вельмі труднай.

Сустрачалі маткі, сёстры
І з блізка, і з даля,
Адны плакалі ад шчасьця,
Другія ад жалю.

Падлічалі, вылічалі,
Шмат не далічылі...
Ой, вяліку дань аддалі
Варожае сіле.

Ля гасьцінцу, ля дарогі
Курганок віднее,
А на ім—штогод вяночак
З беленькіх лілеяў.

Не забылі добры людзі
Ваяка за долю,
Што злажыў сваю галоўку,
Як травінку ў полі.

Не забылася дзяўчына
Курганка ля шляху:
Кожны год вянок прыносіць
І кладзе бяз жаху.

Зацымбалілі цымбалы,
Забубнелі бубны,
Як верталіся з паходу,
З бойкі вельмі труднай.

6

На дзесятыя ўгодкі,
Хоць ноч доўга, дзень кароткі.
Разважае ўвесь народ,
Які вышаў умалот.

Дзе якое было жніва,
Ці ўрадліва, ці шчасьліва:
Суды судзяць так і сяк,
Хто прасьцей, хто накасяк.

На дзесятыя ўгодкі,
Паламаўшы загародкі,
Меншы, большы гаспадар
З перамогі цягне дар.

Той сноп жыта, той аўчыну,
Той шаосьцерню на машыну,
А кум—куму, свату—сват:
Хай жыве ўжо новы лад.

На дзесятыя ўгодкі
Варма вараць мёд салодкі,
А па мёдзе—рукі ў бок
Ды ў скокі крок-у-крок!

Скача горад, скача вёска,
Адно іскры з-пад падноскаў...
Скачы ўнуча, скачы дзед
Ад пабедаў да пабед!

Менск, 29/X—27 г.

---

...словам, паўтарыўшы яго ...разы:—Труп! труп!
...яшчэ хацеў штосьці ска...ць, але агарнуў яго жаль, ...ёзы набеглі на вочы, і ён ...лькі прамовіў:
—Шурум-бурум!
Таксама крычалі і жабы, ...е іх голасу амаль і ня чу...ць было ў гэтым віры ...льнай сумятні, хоць яны ...казвалі даволі сур'ёзную ...мку:
—Крах-крах-крах!
...ластавачка, пралятаючы ...д балотам, падала свой ...ас, каб хоць адгукнуцца ...ўсю гэтую завіруху.
—Рэволюцыя! рэволю...я!—крычала яна.
...ловам, шум тут быў вя...і.
...сапраўды, справа была ...звычайная: столькі вякоў ...яў дуб, што ніхто і ня думаў, каб ён мог так рап-тоўна зваліцца на дол ды яшчэ з такім грукам. Здава-лася, што ён такі-ж стары і такі-ж вечны, як і сам сьвет. Дык і ня дзіва, што думкі балотнага грамадзтва былі так устрывожаны і пашлі ў зусім іншым кірунку, хіля-чыся больш на хаўтурны лад. Але спыніцца належным парадкам над гэтаю праяваю, каб разабрацца ў яе прычы-нах і заадно ўжо ацаніць і значэньне ролі нябожчыка-дуба, балотнае грамадзтва так і ня здолела: другая праява, як вынік першае, яшчэ мацней уразіла тут усіх. І вось што здарылася тут: агонь ад дуба перакінуўся перш на балота, а потым і ў самае балота.

— Пажар! пажар!—загала-сілі галкі.

— Маеце рацыю! Маеце рацыю!—падцьвердзіла сіва-воронка,

Напалоханы грукам, шу-мам і ўсім гэтым гармідарам зайчык падбег да дубовага пня, прысеў на заднія лапкі, а пярэднія скрыжаваў, як самы шчыры каталік у кась-цёле, і стаў варушыць носам і губамі, як-бы гаворачы па-церы па нябожчыку.

— Чорт ведае, што пача-ло твпрыцца!—у страсе ска-заў ён сам сабе. Перакінуў-ся на задніх лапах і пакіль-гікаў балотам, каб быць да-лей ад усякага ліха. Кільгі-каючы, разважаў аб мудрых паводзінах у жыцьці, якімі і належыць кіравацца: мая ха-та з краю, я нічога ня знаю.

Тым-жа часам каля звале-нага дуба, навокала таго месца, дзе пачало дымiцца

# НА РУБЯЖЫ ДЗЕСЯТАЙ ГАДАВІНЫ

**Міхась Чаромха**

На рубяжы дзесятай гадавіны
Калі ў мускулах моцная сталь.
Дзён мінулых жорсткія кпіны
Будзяць у сэрцы нястрыманы жаль.

Дзесяць год—ня іржавая шпала,
Дзесяць год—не аборваны крык.
Не, краіна наша спазнала,
Што і наш ня шурпаты язык.

Ой, даруйце-ж вы мне, дарагія,
Лес імшысты... арэшчын кусты.
Новы дзень—
і другое карэньне,
Новы дзень—
і другія лісты.

Вецер плакаў за чорнаю брамай,
Глыб вачэй танула ў сьлязох.
Цёмны лес не забудзе плямаў,
Што стварылі тысячы ног.

Не забыць цябе, мабыць, ніколі,
Шэпт пяшчотны схілёных вяршын.
Паміж гулу шумлівага гораду
Ўспамінаю аб кветнай цішы.

Адцьвілі дні пакуты ў віхурах
Дык няхай адцьвіце і журба.
Пал юнацкі ніхто не астудзіць
Покуль у сэрцы завеі няма.

Ой, ня дні—а крылатыя коні
Буйнай рысьсю дарогай бягуць.
І з сабою на скрыдлах чырвоных
Песьні шчырыя з сэрца нясуць.

І, было ўсяго ў завіруху
Рэчкі сьлёз і крывавай вады.
Залівалі мурожныя палі,
І гарэлі ў агнёх гарады.

У вёсцы вечарам цёпла-вільготным
Чуў ня раз я жалосны сьпеў,
Што народ склаў ад шчырага сэрца,
Сьпеў таму, хто бяз часу згарэў.

За адно, што быў камуністам
Што любіў не сябе, а другіх
Парашыла крывавая шабля,
Каб ня пеў... і ня скончыўшы—сьціх

Вечар зорны задуменным вокам
Пазіраў у прадоньне жыцьця...
...Гад падкраўся прыглушаным крокам,
Гад падняў галаву з асьця.

Ой, шумела вярба каля хаты
Неяк дзіўна...
таемна так.
Ён загінуў, бы мак у раньні,
Што ня цьвіўшы вадою набрак.

Ноч схілялася ў жоўклае лісьце,
На дываны засохшай травы...
Ўспамінаюць цяпер як калісьці
Не хацеў нахіліць галавы.

Так было... а цяпер ня знаю,
Мо' і Сёньня такіх ня шукаць,
Што імкнуцца нашаму краю
Жыць шчасьліва і вольна ня даць.

---

балота, зьбіўся вялізарны тлум усялякага птаства, зьвяркоў, машкарэчы і народу іншае пастацыі. Страху і зьдзіўленьню канца ня было тут, калі пасьля гарачай дыскусіі было даведзена, што агонь сапраўды перакінуўся ў нутро балота.

— А-а-а! вось праява, дык праява! ну, што вы скажаце? Чаму гарыць зямля?—дзівіўся шпак.

— Ня зносіць галава!—згаджаўся дрозд.

— Дзівота! дзівота!—пілікаў камар, уцякаючы ад дыму.

— Пашла пісаць!—піскнула мыш.

— Ратуйцеся!—не сваім голасам крыкнуў крот, выскачыўшы з балота і тут-жа памёр, як відаць, ад разрыву сэрца.

— Бедненькі!—нахілілася над ім варона:—вось якая сьмерць налучыла цябе!

Яна скрывіла нос на бок, як-бы зьбіраючыся заплакаць, і паціхеньку зьела першую ахвяру гэтай нячуванай праявы.

— Канцы прышлі!—закігікала кнігаўка, невядома, да каго адносячы гэтыя словы.

— Я казаў — сканчэньне сьвету!—зноў сьвіснуў бакас, высунуўшы з куста галаву.

Пачаліся розныя гутаркі, паплылі ўсялякія чуткі, выклікаючы разброд і блытаніну мысьляй і сеючы яшчэ большую трывогу і непакой.

— Чаму гарыць балота?

Вось тое запытаньне, што вярцелася ў усіх на языку і нарэшце было пастаўлена сойкаю.

— Чаму, чаму — затрашчала сарока, паўтараючы яго на тысячы ладоў і ня чуючы адказу.

— Растулецеся! растуцецеся!—грымнулі галкі:—дайце дарогу профэсару! месца профэсару!

Стары крумкач з панскім носам важна выступаў сярод галак і варон, праціскаючыся на самы зэс.

— Сьціхніце!—крыкнула сарока:—профэсар будзе гаварыць! профэсар хоча чым колечы дапамагчы нам! Профэсар вытлумачыць прычыны, прычыны, прычыны!

Вароны і галкі прывіталі „профэсара“ гучным „ура!“

„Профэсар“ вельмі паваж... на абышоў дубовы пень і тое месца, дзе тлеўся агонь у зямлі, спасьцярожліва, як

Што-ж няхай... нам чэрві ня страшны,
Не па сіле ім згрызьці ўстой,
Што мы з сталі краіне кавалі
Дзесяць год мазалёвай рукой.

Толькі тыя, што сэрцам чулым
Ня зьмірыліся з жудасьцю дзён,
Будуць помнікам ў памяці вечным,
Адганяць жыцьця млявасьць і сон.

Эх, жыцьцё бураломным колам
Ты круціся над пенаю хваль
Ня было каб віхлявасьці чорнай,
Адзьвінела ў словах сталь.

Вечар цёмны задуменым вокам
Зноў зірнуў у крыніцы жыцьця.
Хтось падышоў сьмелым крокам
І вывеў мяне з забыцьця.

. . . . . . . . .

Дык даруйце-ж вы мне, дарагія,
Лес імшысты, арэшчын кусты.

Новы час—
і другое карэньне,
Новы час—
і другія ліоты.



**Рабочыя ваколіцы Менску. Від на Ляхаўку.**

і належыць профэсару, аглядаючы кожную драбніцу.

— Гум! гум!—вугніў ён часам у свой панскі нос. Усе, хто быў тут, з заміраньнем сэрца сачылі за „профэсарам“ і чакалі з нязвычайнаю напружнасьцю яго мудрага слова.

— Ага!.. так, так!—казаў сам сабе „профэсар“ і яшчэ болей распаляў зацікаўленасьць грамады.

Нарэшце, кончыўшы з аглядам, „профэсар“ узьлязеў на галіну нябожчыка дуба, заняў найвыгоднейшую пазыцыю на сваёй катэдры і зрабіў самую мудрую міну.

— Вось што значыць вучоны!—у захапленьні зашаптала сарока:—у кожным руху відаць профэсарская вучонасьць.

А „профэсар“ для яшчэ большай важнасьці працёр лапаю вочы.

— Шаноўныя грамадзянкі і шаноўныя грамадзяне!—пачаў „профэсар“:—я разумею ваш непакой і вашу трывогу. Тое, што мы бачым цяпер у зародку, можа пагражаць нам у сваім далейшым разьвіцьці.

Ад гэтых слоў у сарокі набеглі на вочы сьлёзы.

— І зусім натуральна жаданьне ваша даведацца аб прычынах катастрофы. Навука, ад імя якой я выступаю, можа зусім правільна, зусім дакладна высьветліць і растлумачыць вам усё. Да кожнай зьявы на сьвеце трэба падыходзіць са словамі: чаму? і з чаго? Бо гэта ёсьць пачатак мудрасьці і філёзофіі. І гэтая філёзофія нам кажа: на ўсё ёсьць прычына. Паясьнім гэта некаторымі конкрэтнымі прыкладамі. Калі я маю з вамі гутарку, то, значыцца, на гэта ёсьць прычына. Калі вы сабраліся тут, то і тут таксама ёсьць прычына, Як бачыце, на сьвеце ёсьць на ўсё прычына, і кожная прычына мае сваю прычыну і ў аснове кожнай прычыны таксама ляжыць прычына.

— Матухны мае, як проста і ясна гаворыць профэсар! цяпер для мяне становіцца зразумела усё,—азвалася галка.

— Цяпер, узброіўшыся навукаю, паглядзім на тую зьяву, што так моцна занепакоіла нас,—тлумачыў далей „профэсар“.— Дык вось. На гэтым месьце загарэўся агонь, што мае сваю пэўную

# Восень

**В. Гінтаўт**

Ляцелі журавы з крыкам звонкім, хаваліся за лес, нясучы радасьці восені.

У палёх было ціха, як жыцьцё людзей, якія жылі, працавалі і паміралі, часам бяз бур жыцьцёвых.

Цяпер сыпаліся жоўтыя лісьця; выбіралі бульбу...

Ходзіць Язэп каля дому; радасьць ураджайнае восені поўніць яго.

Залажыўшы руку за пазуху, Язеп адчувае шурпатасьць рукі ад працы каля цела. Глядзіць у гумно курачы люльку. Усьміхаецца новай страхой клуня. Радуецца да сьлёз сэрца Язэпа; як міла, як дорага зямля і праца.

Дні восені для Язэпа былі так ціхі, так мілы, бы ясныя дні пасьля дажджоў і грымотаў...

Прыбрана поле, засеяна жыта на зіму, выбіраюць бульбу—апошняя праца перад зімой і ўсё разам здаецца, што зямля і людзі рыхтуюцца да нейкага сьвята.

Выбіралі бульбу і ціха сыпалі ў кучу, куча расла, чакала адвячорка, калі павязуць ссыпаць у ямы.

Ї ціха і сьветла было на душы Язэпа. Ён ведаў, што сярдуе на яго Хвалькоўскі за зямлю, на якой ён пабудаваўся і жыве.

Язэп чуў, што баліць сьпіна ад работы, але ня лішне зьвяртаў увагі—адпачну за зіму, тады час вальнейшы.

Ведаў Язэп і тое, што Хвалькоўскі ня хоча хадзіць да яго затым, што яго сэрца ад зайздрасьці да Язэпа баліць за мінулае, калі зямля была яго і Язэп выраблуяў яму яе. Язэп хадзіў, радаваўся працай, а мінуласьць здавалася чорнай навалай, якой былі самі людзі, толькі багатыя. Уся чорнасьць была зьнішчана, як бураломам лес, і радасная ціхасьць засталася вывеяна вятрамі—бурамі.

Восень—асыпаецца лісьце... выбяруць бульбу... пацярушыць сьнег... ляжа зіма... Язэп будзе вечарамі крахтаць ад летняе працы на печы, скардзіцца на боль у крыжы, будзе казаць дзецям аб блізкай яго дамавіне...

Сьпеюць рабіны, чакаюць марозаў.

Ясныя дні восені пройдуць хутка і надойдуць дажджы, пачнецца гразь, там пачнуцца марозы—пойдзе сьнег...

Восень—апалае лісьце... выбіраюць бульбу, радуюцца людзі.

Язэп вясела глядзіць на поле.

---

прычыну. Гэта дубава сьмерць абрала сабе такую форму, каб скончыць яго жыцьцё на зямлі. Дуб ляжыць на балоце, мы бачым труп яго і дым каля таго месца, дзе дуб стаяў. Дым—гэта дубава душа. Выйдзе душа, і агонь патухне.

— Ура! ура, профэсар!—крыкнулі вароны, галкі і сарокі.

А „профэсар“, яшчэ раз зірнуўшы на грудок, што дыміўся, і на лагчынку ніжэй грудка—ён быў пэўны, што агонь не пяройдзе праз лагчынку—сказаў з поўнаю праконасьцю:

— Агонь патухне, дойдзе да лагчыны і...

Крумкач раптам сарваўся і ня скончыў таго, што меўся сказаць: падзьмуў вецер і запарушыў прамоўцу вочы. Крумкач сарваўся з галіны і паляцеў, як няпрытомны, нямаведама куды, што вельмі зьдзівіла грамаду.

— Што з ім сталася?

— З вялікай вучонасьці нешта прыключылася,—чуліся галасы.

На ўсё ёсьць прычына, уздыхнула сарока.

— Балван!—шыкнуў злосна цецярук.

Разышлося, разьляцелася і распаўзлося балотнае грамадзтва, заспакоенае ўсё-ж такі словамі крумкача.

Чакалі далейшых падзей, чакалі з цікавасьцю. Балота-ж дымілася і дымілася. Цёмна-шэрая пляма навакола дубовага пня ўсё расла і расла. Пень і ўсе рэшткі ад дуба сатлелі. Увесь груд, дзе стаяў дуб, выгарэў дашчэнту. Тысячамі нявідных сьцежачак наступаў агонь на балота, і далёка чуўся запах гары, а лес і гайкі засьцілаліся дымам.

— Глядзеце: агонь даходзіць да лагчыны!

— Лагчына пачынае гарэць!

— Агонь пераходзіць лагчыну!

— Насланьне нейкае: як гэта можа гарэць лагчына?—дзівіўся бусел.

- Справа дрэнь! справа дрэнь!—гракала варона.

— А крумкач пацяшаў, што агонь далей лагчыны ня пойдзе,—скардзіўся перапужаны драч.

— Крумкач—дурак!—прамовіў журавель.

— Трэба нешта рабіць!—пішчаў камар.

— Трэба, трэба—цьвіркаў конік.

# Гаманіла хвоя

*Братом з Заходняй Беларусі*

**А. Гладкі**

Гаманіла хвоя у пажоўклым полі,
Шапацела веццем, плылі гукі ў просінь.
І казала хвоя стройнаму таполю,
— Паглядзі, браточку, надыходзіць восень.

— Паглядзі, ужо жыта навокал пажата,
Пабурэла лісьце на старой бярозе,
Не пяюць пад вечар ў палёх дзяўчаты,
Зашумелі сумна лугавыя лозы.

— Ой ня плач, сястрыца, адказаў таполю,
Ты ня плач аб гэтым, што цяпло ў нас гіне,
Не загіне лета вось у гэным полі,
Не загіне шчасьце вольнае краіны.

Часы суму пройдуць і вясна настане.
Зацьвіце ўсё ў гаю, зацьвіце ў нізіне
І прыемна сонца зноў нябёсаў гляне,
Зноўку закрасуе радасьць у краіне.



Менск уночы.

— Так, так! - згаджалася качка.

— Ня дружны ў нас народ,—азвалася галка.

— Паслухайце мяне, грамада! — выступіў бусел:— агонь вады баіцца. Давайце насіць ваду на агонь!

— Насіць, насіць!—загула грамада.

Усе рынуліся па ваду. Бусел камандаваў і падымаў дух у грамады.—Патушым пажар! спынім варожную сілу!—пакрыкваў ён і паддаваў ахвоты.

Цэлы дзень да самага цямна насілі воду, лілі на агонь і цешыліся, што цяпер, то напэўна патухне. Але як зьдзівіліся на заўтра, калі пабачылі, што балота гарыць далей!

Бусел зьвесіў свой доўгі нос. Смутак апанаваў усіх. Зноў пачаліся нарады, разважаньне і, як і раней, стаяла тое-ж неразгаданае пытаньне: чаму гарыць балота?

І ў момант самай цяжкай роспачы нечакана зьявіўся крумкач. Усе нязвычайна ўзрадаваліся.

— Нешта скажа! Нешта скажа! Напэўна прыляцеў з добраю весткаю!—насілася ў грамадзе.

— Профэсар будзе гаварыць! Профэсар скажа нешта нязвычайнае! — затрашчала сарока.

А „профэсар“ цішком агледаў балота і заўважыў маленькі ручаёк, што цёк праз балота. Ён быў упэўнены, што праз гэты раўчак агонь не перакінецца. Вось ён і прыляцеў сюды, каб падтрымаць сваю рэпутацыю вучонага.

— Грамадзяне! — пачаў крумкач:—вы напэўна былі зьдзіўлены, калі я ў мінулы раз змушаны быў перарваць сваю прамову—на тое была свая прычына, як і казаў і я вам, што ўсё на сьвеце мае сваю прычыну.

— Я так і казала:—у захапленьні затрашчала сарока.

— Усё на сьвеце мае сваю прычыну. Што гэта значыць? А гэта значыць усё і нічога. Усё—для вучоных, нічога—для невукаў. Вы дзівіцеся, што агонь ня гасьне, і гэта вас непакоіць і трывожыць. Чаму ня гасьне агонь? Ня гасьне таму, што дуб быў вялікі і душа яго вялікая. А сьлед ад вялікай душы застаецца на сьвеце доўга.

— Ах, родненькія мае! Як

# Ліст да хлапцоў

**Сяргей Фамін**

*Прысьвячаецца моладзі вёс. Ратуцічы*

Браткі мае! вітаю вас
З вялікім урачыстым сьвятам.
Вітаю вас!
І вашым хатам
Мая ківае галава.

Браточкі!
Што вам напісаць
Аб гэтай радасьці і працы?—
Я чую моц,
Будую сам
І песьнямі магу сьмяяцца.

Эх, любыя!
Каб паглядзелі вы...
Каб вы прыехалі
На сьвята ў госьці.
Вам наказаў-бы
Горад заравы,
У пурпур сьцягоў затопленую восень.

. . . . . . .

Я ведаю, цяпер—мароз
І вы да сьвята
З хвойніку пабудавалі браму.
...І нехта хмуры ўрачыста ў раме..
І сьцяг далёка бачан за гарой.

Я ведаю, што хустку з дзеразы
Вы ўскінулі на новую чытальню.
...І ніякія ў сьвеце маразы
Незмарозяць песьні прывітаньнем.

А горад наш,
Сябры мае, браткі!
Прыедзьце, паглядзіце самі:
Будуецца і плешчуць малаткі,
Расьце палац,
Шляхі раўнуе камень..

У вас—ня так:
Па золаце травы
Зьбярэцеся вы з хутароў па горсьці.
Прыедзьце, хлопцы,
Да мяне ў госьці,—
Я пакажу вам
Горад заравы
І ў дрож сьцягоў затопленую восень!

Кастрычнік 1927 г. Менск.

---

гэта ён складна гаворыць!— у скуры ня тоўпілася сарока.

— Але памятайце маё слова: агонь дойдзе да таго цёмнага валу, што цягнецца па краю балота, і далей ня пойдзе.

— Ура! ура! Няхай жыве профэсар!—гучна крычала грамада. Адзін толькі цецярук скэптычна азваўся:

— Шалдуй балдуй!

На разьвітаньне „профэсар“ сказаў:

— Аставайцеся здаровы, будзьце пэўныя і ня трывожцеся дарэмна: агонь пагасьне —на ўсё ёсьць свая прычына!

Грамадою і з пашанаю праводзілі крумкача да самага лесу. Вярнуўшыся, чакалі далейшых падзей. І ўсё ішло так, як і казаў крумкач. Агонь падыходзіў да высокага валу. А калі ён наблізіўся да самага раўчука, то камар злорадна заявіў:

— Брэшаш! тут канец табе!

Але на высокім вале была сухая трава. Па траве перакінуўся агонь на другі бок, і сам камар затохся ў дыме. А па той бок раўчака для агню пачынаўся шырокі разгон.

І пачалася страшэнная сумятня на балоце.

Пажар! пажар!—галасілі вароны.

Мышы і пацукі табунамі папёрлі з балота, за імі папаўзьлі вужы, гады і ўсякая поскудзь.

— Скончаньне сьвету!— сьвістаў бакас, кідаючыся з куста ў куст.

Бусел, журавель і чапля пад шумок палящелі на цёплыя воды, каб адпачыць ці згрызот і паправіць здароўе.

А на тым месяцы на балоце, дзе раней перайшоў агонь, пачала рунець новая лапушыстая трава і буяць сакавітыя маладыя краскі.

Профэсар-крумкач, публічна асароміўшыся два разы, зашыўся ў густы лес і ўсё круціць мазгі над пытаньнем:

Чаму гарыць балота, ня гледзячы ні на якія перашкоды?

На ўсё ёсьць прычына.
Як пачаў, так і канчаю.



# Чалавек на крызе

## П. Арэшын

I

Мельнікаў разьмясьціўся, як дома. Нават скінуў з сябе кажух. Сонца пякло і падыхаў цёплы вецер з боку пасінелых стэпаў, якія раскінуліся на сотні вёрст. Ён сядзеў на кажусе, аглядваючы абодвы берагі. Мельнікаву здавалася, што ня ён плыве, а горы і хвоі плывуць паўз яго строгія, цёмныя, маўклівыя і глухія.

Мельнікаў плыў па самай сярэдзіне Волгі, абвакалены грукатам, шумам, ровам, пучынамі і вадаграямі пырск. Чуў, як аграмадная крыга, стыкалася з другімі, уся калыхалася пад імі, глыбей садзілася ў ваду, потым падымалася і нехаця зьмяняла кірунак уразаючыся бакамі ў насядаючую гушчыню. Часамі цэлая лёдавая гара пагражала разьнесьці і раздушыць яго крыгу. Мельнікаў ведаў толк у гэтых сьнежных гурмах. Гара насоўвалася на яго, ён ацэньваў бяз хібы яе вагу і сілу і спакойна наглядаў яе рашучы напад, загадзя смакуючы перамогу. Часамі яго крыга выходзіла на зусім чыстую вадзяную гладзь і ішла роўна, бяз уздрыгаў, зьяючы краямі. Мельнікаў адчуваў пад сабой халодную муць ракі, але яна ня была страшною. Мельнікаў вырас на Волзе, яна яго потым зрабіла грузчыкам, і ён прывык да яе з дзяцінства, як да мацеры. Гэтыя стромкія берагі, стэп, хвоі, віры, крыгі, гэта яго хата, яго сёстры і браты, гэта ён сам, Мельнікаў! І ён не баяўся. Нават было прыемна, калі адчувалася небясьпечнасьць і магчыма было памерацца сілай.

Вясною сіняе неба на Волзе падымаецца вышэй звычайнага, і кожны год ідуць крыгі аграмадным прасторам, усе ў адным кірунку, усе да аднэй мэты. Лёд быў упарты, і тыя, хто гадамі глядзеў на яго, вучыўся быць моцным, як крыгі, і быў упарты, як яны. Мельнікаў зразумеў, што жыцьцё гэта—Волга, а ён—толькі крыга, моцная добрая крыга, якая сама прабівае дарогу. Ён павінен плысьці, куды хочацца. І перашкод не павінна быць. Калі яны ёсьць,—зламаць іх! Заўтра ён павінен быць дома, у сваёй вёсцы. Так яму хочацца. Ён ня мог гэтага зрабіць раней, але не затым, што баяўся. Мельнікаў увесь для жыцьця. Яму дваццаць сем год толькі, ён можа адным ударам кулака забіць барана; з ім можна ісьці на мядзьведзя; ён здароў, як гэты сіні стэп, як вада, як цёмныя палі, якія скінулі з сябе зімовы сон, як жыцьцё.

Мельнікаў ведаў, што ўсюды стаяць белыя. Гэта было ў часы грамадзянскай вайны. Кулі хапалі зьнянацку. Мельнікаў праплыў амаль сто дваццаць вёрст. З Сасноўкі ён выплыў ў начы і толькі раніцою зьмяніў крыгу. Ноч была цёмная, але ў Мельнікава добрыя вочы, і ён бачыў, як кот. Плывучы каля сяла, чуў, як за гарой сьпявалі песьні, бачыў агні на гары ў хатах, потым чуў стрэлы, і па гэтых песьнях, агнёх і стрэлах зразумеў, што белыя захапілі сяло і гаспадараць у ім. Калі-б Мельнікаву ня трэба было сьпяшацца ў Сьвішчаўку, дык ён-бы зрабіў вылазку, сышоў-бы на бераг і падняўся да высокіх хат, ён мог гэта зрабіць, узброены вінтоўкай, цікавасьцю і адвагай, але яму патрэбна быць заўтра ў Сьвішчаўцы, і ён абаронены непрагляднаю цемрай, праплыў паўз хаты.

Раніца зацягвала Волгу туманам. Туман лажыўся пластамі і пластамі ішоў у горы. Сонца выкацілася. Горы сьцяной падняліся насустрэч. Дзе-ні-дзе відзён сьнег. Мельнікаў на волі, і на яго шчасьце з ім ёсьць табака. Дым ласкатаў ноздры, блытаўся ў рыжых вусах і ляцеў за сьпіну. Мельнікаву сьветла і радасна. Ён праплыў самыя небясьпечныя месцы, дзе сядзяць белыя. Цяпер яму заставалася толькі праплыць адну вёску ў дваццаць двароў, Падасінаўку. Ад яе да Сьвішчаўкі ўсяго васемнаццаць вёрст, паўтары гадзіны хады. Хай Волга шале ледаходам і шуміць, скрыгоча і б'ецца аб скалы,—ён ўсё-ж усьцярогся пятлі і сёньня, пасьля шасьці месяцаў голаду, холаду і небясьпек, павінен быць дома.

II

Гэта было пятнаццаць год назад. Мельнікаў быў хлапчуком і працаваў на цэгляным заводзе; мяў гліну, прыбіраў жарству, памагаў апальваць і бегаў у казёнку.

Аднойчы Зьмітрок, падмяютаючы завод, зьнячэўку квэцнуў брудная мятлою па выглянцованым боце Пятра Сяргеевіча. Пётра Сяргеевіч, гаспадар, мужчына-мя-

дведзь, паглядзеў на бот. Потым падышоў да хлапчука і даў „ляшча“: звонкая аплявуха ледзь-ледзь не зваліла Зьмітрака з ног; уся шчака так і загарэлася. Пётра Сяргеевіч сёў у каламашку і паехаў на лецішча. Рабочыя сталі падсьмейвацца над Зьмітраком.

— Што?

— Зьеў?

— А ці смачна?

— Мабыць смачна, калі аблізваецца!

— Бяжы папрасі яшчэ!

— З маслам!

— З перцам!

— З цыбуляй!

— Ой, зусім закармілі хлапца!

Зьмітрок стаяў бяз слоў. Ён нават не паправіў падранае шаламайкі, якая зьехала на нос і прыкрыла вочы. Зьмітрок не сказаў ні слова. І, толькі пасьля таго, як рабочыя перасталі дурэць, Зьмітрок прысеў да складзенай цэглы, адкуль яго ніхто ня бачыў, і горка заплакаў. З гэтага дняЗьмітрок пасьляп рацы ішоў у лебедзеўскі сад, абнесены плотам. Тры вечары ён прасядзеў у кусток, каля альтанкі, над сажалкай. Тры вечары сьвяціліся ў кустох вочы Зьмітрака. Як раз тады цьвілі вішні, вечары былі душныя, Зьмітрок сядзеў цярпліва ў кустох і жаваў хлеб. І толькі на чацьверты вечар дачакаўся: Хведзя Лебедзеў у белай сьвітцы вышаў з зеляніны. Ён ішоў проста, па сьцежцы, да ўласнай сажалкі. Але не пасьпеў Хведзя, чысьценькі хлопчык, спусьціцца пад гару, як Зьмітрок каршуном наляцеў з боку і так бахнуў кулаком у грудзі, што Хведзя паляцеў з ног. Ён быў вышэй і старэй Зьмітрака, і яму стала крыўдна: такі таракан даў яму ў грудзі штурханца! Хведзя пазеленеў, кінуў кнігу, падышоў да Зьмітрака і сьціснуў кулакі.

Ты што?—крыкнуў ён, блішчучы сьлязьмі.

Зьмітрок стаяў хмуры.

— Ты за вошта мяне?

Змітрок падцягнуў порткі, шмыгнуў носам і сярдзіта нахмурыў бровы.

— Давай біцца!

Хведзя размахнуўся і даў яму па носе. Праз губы палілася кроў. Зьмітрака быццам агнём апякло. Ён сьціснуў кулакі, яны сталі цьвёрдыя, як камень. Ён кінуўся, нахіліўшы галаву, на ворага, і ў яго галаве ня было ў гэты час не аднэй вартай увагі думкі, апрача той, што ён павінен зьбіць свайго ворага, сесьці на яго і біць. Але Хведзя адказваў лоўка і, нават, з некаторым разьлікам. Ён стараўся быць хуткім і спрытным, але гэта яму няўдавалася, за ўдар ён атрымоўваў пяць адразу. Зьмітрок не даваў яму нават апамятвацца. Некалькі разоў ён сам атрымоўваў па твары і пад лыжачку, але гэта толькі яшчэ больш распальвала яго, і ён увесь аддаўся барацьбе. Ён сьціскаўся ў клубок, прысядаў, разьбягаўся і біў проста ў расквашаны твар. Хведзя згубіў сваю гімназічную шапку. З пачатку яму здавалася, што ён возьме Зьмітрака ў хвіліну, але чым далей зацягвалася бойка, тым ясьней Хведзя пераконваўся, што ён памыліўся. Зьмітрок быў меншы за яго, але Зьмітрок быў зьбіты з чорнага хлеба, з высьпятак, жабрацтва і ўпартасьці, і той, хто выкаван на белых булках, павінен адразу адчуваць гэтыя моцныя кулакі і гэту ўпартую, моцную волю, закаленую ў жабрацтве. Зьмітрок біў, не шкадуючы сябе, таму што сам ён быў для Хведзіных кулакоў жорсткім, як гліна. І калі Зьмітрок апошнім ударам зваліў ворага, той зразу зразумеў, што бой бойка страчана. Ён закрычаў на ўвесь сад. З кустоў выбягала Хведзіна маці, Ганна Паўлаўна. У гэты час Зьмітрок сядзеў на Хведзінай сьпіне і біў, як пападзе. Ганна Паўлаўна падскочыла і дала Зьмітраку аплявуху. Але Зьмітрок не пабег прэч, кінуўся на Ганну Паўлаўну і вымазаў расквашаным носам яе белую спадніцу. Цяпер ён біўся з дваімі. З кустоў, пачуўшы шум, набеглі слугі, і Зьмітрок хутка, як кошка схаваўся ў густой вішнёвай зеляніне. Праз два дні з гораду прыехаў сам Пётра Сяргеевіч. Хведзя быў увесь у сінцох. Пётра Сяргеевіч загадаў прывесьці Зьмітрака да сябе на балькон. Зьмітрок прышоў. Пётра Сяргеевіч піў каву. Пётра Сяргеевіч увесь пачырванеў, калі ўбачыў космы ўвашоўшага Зьмітрака.Ен не сказаў ніводнага слова, падышоў да Зьмітрака і адным ударам зваліў яго з ног. Зьмітрок падняўся. Але тут-жа атрымаў аплявуху. І зноўку падняўся. Пётра Сяргеевіч у аднэй белай камізэльцы, біў, быццам дарослага, на ўсю сілу. То з правай, то з левай. Зьмітрок лятаў з боку на бок. Пётра Сяргеевіч увайшоў у азарт. Каб Зьмітрок заплакаў! Каб Зьмітрок упаў на калені! Калі-б Зьмітрок папрасіў у яго прабачэньня! Не. Пётра Сяргеевіч біў так, што гарэлі рукі. Але Зьмітрок маўчаў, ён

ня крыкнуў ні разу, і толькі па ўсім успухшым твары каціліся сьлёзы. Пётра Сяргеевіч дрыжэў. Біў бяз жалю, быццам жадаў забіць. Быццам жадаў Пётра Сяргеевіч зламаць гэтую ўпартасьць, раздушыць, гэтую волю. Але Зьмітрок толькі адыходзіў назад да дзьвярэй. Ён ледзь-ледзь трымаўся на нагах. Потым у яго пацямнела ў ваччу. Потым палілася з носу кроў. Потым ён страціў прытомнасьць і качаўся, як мярцьвяк, ля ног Пётры Сяргеевіча. Але ніводнага гуку.

А калі Пётра Сяргеевіч пайшоў у пакой, служанка Домна падняла Зьмітрака, павяла да сажалкі, абмыла і правяла яго да вёскі.

### III

Эх, каб у руках былі вёслы!

Мельнікаў падняўся з кажуха, пацягнуўся і адным поглядам акінуў увесь ледзяны прастор.

Уздыхнуў, стаў на калені і прыслухаўся. Паветра напоўнена гулам. Усплёсквала вада. Тут, там усюды варочаліся крыгі, станавіліся бокам, лезьлі адна на другую і грызьліся, як зьвяры, становячыся дубка. А навокал цягнуліся горы, прамоеныя крэйдай. І сонца—на крыгах, на хвоях, на пяску, на клоччы вады.

Мельнікаў гаварыў голасна. Яму надта хацелася цяпер мець каля сябе такога чалавека, якому можна-б было расказаць усё сваё жыцьцё і асабліва апошнія месяцы. Але яшчэ мацней яго захаплівалі апошнія дні. Шэсьць месяцаў ён рызыкаваў сваім жыцьцём. Быў паранены, выляжаў, хадзіў з абвязанай галавою, потым, як выпісаўся са шпіталю, зноў папаў у бой, два разы хадзіў у рукапашную, два разы пападаў у палон і два разы ўцякаў з палону, рызыкуючы галавой, жыцьцём і яшчэ... Ганулькаю!

Мельнікаў сеў, зацягнуўся махоркай і пачухаў паясьніцу. Успомніў: дома яго цяпер чакаюць. І раптам увесь твар яго засьвяціўся ўнутраным сьмехам, губы разышліся, і рыжыя вусы, падняўшыся, паказалі два рады зубоў. Ніколі Мельнікаву не хацелася гэтак быць дома, як у гэты дзень. Нават хаты Сьвішчаўкі цяпер здаваліся прыветлівымі. Радасьць хапала за сэрца. Калі-б Мельнікаў бачыў у гэты час свае вочы! Ён-бы не пазнаў-бы сябе. Праўда, вочы Мельнікава ад бяссонных начэй, ад паходаў і галадовак запалі, як у яму і іх абляглі маршчыны. Але яны былі праменістымі, як сонца. Яго чакала радасьць: Ганулька!

Жонкі ў яго ня было. У мінулым годзе яе знайшлі пасьля набегу белых у канаве, за высахшай крыніцай. Яе пахавалі потым. Палажылі ў труну, твар заклалі ватаю. Так страшна ён быў пакалечаны. Над ёй плакалі бабы, плакалі вёскай, разказваючы пасьля пахаваньня, як боязна бачыць мёртвую жанчыну, у якой адрэзаны грудзі.

Мельнікаў амаль-што ня бачыць бушуючых крыг, ня чуў іхнага стогну. Ён бачыць толькі тое, для чаго плыве: маленькую, тоўстаногую Ганульку, дачку. Яна зусім яшчэ маленькая. Ёй усяго яшчэ гадкі паўтары, ня больш. Але гэта маленькая істота цягне да сябе. Затым ён з такой нецярплівасьцю ўглядаецца часамі ў ланцуг рыжых гор і лічыць кожную пакінутую за плячмі вярсту. Ен крычыць весела: э, д'я-бал! і доўгім шостам разганяе хаду свае крыгі.

Ён падплывае да вёскі. Яна прымасьцілася на вяршыні гары, каля абрыву. Гэта і ёсьць Падасінаўка. Тут калісь ці жыў яго дзед. У Падасінаўцы дваццаць двароў. Але якія двары! Кожная хацінка так і глядзі, што зваліцца на бок. Усе быццам п'яныя. Возьмуць вось і перакінуцца ў ваду. Але Мельнікаў рад ім. Ад Падасінаўкі да Сьвішчаўкі васемнаццаць вёрст. Па Волзе бліжэй—трынаццаць, і яе будзе відаць вось за тым бугром з маленькім хмызьняком.

Галоўнае, што асабліва радавала Мельнікава ў дарозе, гэта—цішыня; амаль на сто вёрст—і ні аднага стрэлу, ні аднаго коньніка, ні адной кулі з-за кута! Але вось ён зраўняўся з Падасінаўкай, і там, на гары, раптам штосьці трэснула, раскацілася кароткім рэхам, і некалькі куль адна за другой, прасьвісталі ў паветры.

### IV

Белыя зьбеглі з гары на бераг, і хутка іх лік дайшоў да пяці дзесяткаў. Сярод іх быў адзін афіцэр. У Мельнікава смалілі з стрэльбаў. Кулі сьвісталі вышэй і ніжэй, направа і налева, але ні адна не магла папасьці ў цель. Некалькі куль стукнулі ў крыгу, пакідаючы пасьля сябе белаватыя ямінікі. Некалькі куль плюхнула ў ваду.

Мельнікаў выплыў на сярэдзіну ракі. Кажух пад ім прамок. Яго стрэльба была зараджана. Але ў яго было ўсяго не-

калькі куль, і ён маўчаў. Крыга хутка адыходзіла ад Падасінаўкі, белыя беглі ўздоўж берагу і стралялі. Мельнікаў стаўся ім цацкаю. Ён чуў, як яны сьмяяліся, страляючы па ім, як па зайцы. Стралялі стоячы, на беразе, некаторыя з калена і лежачы. А калі асобныя стрэлы заціхлі, Мельнікаў пачуў, як афіцэр скамандаваў „зважай!“, затым адышоў у бок, людзі ў шэрых шынэлях выстраіліся і пяцьдзесят дулаў было скіравана ў галаву Мельнікава.

— Плі!—скамандаваў голас, і паветра ўскалыхнулася. Салдатаў зацягнула дымам.—Плі!—паўтарыў голас, і залп зноў раскаціўся па крыгах, вадзе і берагу.

часу, пакуль ты ўвесь не абернешся ў блінец!

— Я вас не чапаю, якога-ж вы д'ябла!—паўтарыў Мельнікаў, падняўшы галаву.

Афіцэр адказаў зноў па старому:

— Калі ты ня выйдзеш зараз-жа на бераг, я загадаю страляць да таго часу, пакуль не зраблю з цябе блінец! Зразумела, здаецца?

Мельнікаў нічога не адказаў. Ён толькі ўсьміхнуўся на словы афіцэра—„не зраблю з цябе блінец!“ Мельнікаў з дзесяці год зразумеў, што яго ўвесь час хочуць зрабіць блінцом. З дзесяці год пачаў ён дарослае жыцьцё апошняга бедака. Ён не забыўся, як быў вучнем у



**Менск. Кватэры для рабочых.**

Мельнікаў ляжаў нярухома, прыціснуўшыся ўсім целам да крыгі.

— Міма,—пачуў Мельнікаў.

— Д'ябал яго саб'е там!—засьмяяўся хтосьці.

— Эй, ты!—высокім тэнарам даляцела да Мельнікова.—Выходзь на бераг!.. А то будзе горш!

Мельнікаў, ня падымаючы галаў, адказаў:

— Я вас не чапаю. Афіцэр загадаў спыніць стрэляніну.

— Калі ты, сукін сын,—сказаў ён, адрэзваючы кожнае слова, ня выйдзеш на бераг, я загадаю страляць да таго

шаўца ў горадзе, і шавец біў яго па галаве капылом цэлага паўгода і ўсё-ж „не зрабіў блінцом“. Потым—Пётра Сяргеевіч. Ці-ж Пётра Сяргеевіч не хацеў з яго „зрабіць блінец?“ Але ён вытрымаў гэта, і ніхто ня скажа, што ён прасіў у Пятра Сяргеевіча прабачэньня. Потым Мельнікаў жыў разам з бацькам у бруднай хаце, пасьвіў сьвіней, галадаваў, мок пад дажджом. Пазьней быў грузчыкам і цягаў на сваіх плячох дваццаці-пудовыя мяхі і бочкі. І дваццаці-пудовыя мяхі і бочкі, голад і холад усё-ж такі не зрабілі яго блінцом? Жыцьцё ў жабрацтве, з голадам, холадам, у насьмешках, у п'янстве,—хіба ўсё гэта жыцьцё ня імкнулася зрабіць з

яго „блінец"? Але так жыў і яго бацька. Так жыў яго дзед. Так жыў увесь народ.

— Плі!—адказалі з берагу. Ї кулі зноў засьвісталі ў паветры. Пяць залпаў адзін за другім. Мельнікаў ляжаў на крызе, ледзь прыкметны.

— Гэта шпіён!—крыкнуў хтосьці асіплым голасам.

— Гэта чырвоны!

— Ён упарты, як бык.

— Яго трэба ўзяць,—чаго-б гэта ні каштавала.

Крыга Мельнікава ўрэзалася ў гушчар другіх крыг, акрываўленых вячэрнім сонцам, і паміж ім і людзьмі на беразе ўтварылася простая ільдзяная плошча, па якой было лёгка ісьці. А людзі ўсё беглі па беразе, і Падасінаўка засталася даўно за іх плячмі. Людзі крычалі. Потым ён убачыў пяць чалавек—салдат, якія спусьціліся да вады з доўгімі кіямі і вінтоўкамі. Гэтыя пяць чалавек проста па крыгах пайшлі на Мельнікава. З берагу палілі залпамі, і пулі сьвісталі зусім блізка. Мельнікаў нацэліўся, але, падумаўшы, ня стрэліў. Людзі скакалі па крыгах, нахіляючыся і асьцярожна вышукваючы кіямі больш цьвёрдую глебу. Адзін ішоў на чале. Гэта быў маленькі, лёгкі на нагу чалавек. Мельнікаў падпусьціў яго на адлегласьць двухсот крокаў, калі ён падскачыў, Мельнікаў стрэліў, зваліў яго ў паветры. Чалавек, паранены, зьнік між крыгамі. Мельнікаў зноў стрэліў, і пярэдні ў чорнай шапцы, нялоўка махнуў рукамі і паляцеў у ваду.

— Трэба паўзьці!.. Эй!.. Паўзьці трэба!—крыкнулі з берагу.

Тры сьмельчакі прыгнулі голаў. Той, што быў з крыжом на грудзёх, скочыў яшчэ некалькі разоў у бок Мельнікава і быў блізка каля яго. Ён страляў лежачы. Апошнія два таксама паўзьлі. Мельнікаў вартаваў усіх. Яны плылі на досыць вялікай адлегласьці адзін ад другога, а той, з крыжам на грудзёх, з рэдзенькай бародкаю, плыў ня далей, як на пяцьдзесят крокаў. Але ён плыў увесь час лежачы і, каб пераскочыць на другую крыгу, чакаў, пакуль таварышы адвядуць ад яго ўвагу Мельнікава. Тыя два зразумелі гэта і некалькі раз стрэлілі. Чалавек з крыжом на грудзёх хутка падскочыў. Але Мельнікаў падстрэліў і яго. У гэты час зусім малады хлапчук, пасьпеў пераскочыць на крыгу, якая плыла сьледам за Мельнікавым, і хацеў ужо стрэліць, але Мельнікаў папярэдзіў яго і малады хлапчук застаўся ляжаць на крызе.

Сонца зашло за горы. Сівы туман папоўз па верхавінах панурых хвой. Людзі з берагу жмурылі вочы і прысядалі, каб убачыць свайго чалавека, які павінен быў даць, на іх погляд, астатні і рашаючы стрэл.

Мельнікаў убачыў гэтага апошняга зусім блізка. Ен нават спацеў, калі ўбачыў яго. А тут раптам наляцела цэлая плошча лёду з боку і ўдарыла так, што крыга Мельнікава адскочыла, закалыхалася і падалася ў бок падплываючага чалавека. Мельнікаў узяў гэтага чалавека на мушку. Стрэл павінен быць правідловым. Ён пацiснуў кручок. Але стрэльба толькі чыкнула, і стрэлу ня было. Чалавек ішоў. Мельнікаў зноў стрэліў, але стрэльба зноў толькі чыкнула. Тады Мельнікаў зразумеў, што ў яго няма куль. Чалавек у белай шапцы, мабыць, уцяміў, у чым справа. Ён ішоў ня схіляючыся. Ён падыходзіў усё бліжэй і бліжэй, і Мельнікаў зьдзівіўся: чаму ён, белы, ня хоча стрэліць? А на беразе, у сівым тумане, ішлі, крычалі і чакалі, быццам тут, на крызе, на самай сярэдзіне Волгі вырашаўся іх уласны лёс.

— Ну,—сказаў, нарэшце, Мельнікаву, падыходзіўшы.—Ты мой. У цябе няма куль. Табе няма чым застрэліць мяне.

— Так, няма чым,—адказаў Мельнікаў, устаўшы на ногі.

— Мне няма чым страляць.

— Ты мой—паўтарыў глуха чалавек у белай шапцы. Ї, узяўшы на мушку стрэльбу, крыкнуў: рукі ўверх!

Мельнікаў стаяў, нярухома.

— Рукі ўверх! паўтарыў чалавек.— Буду страляць! Раз!

Мельнікаў стаяў.

— Два!

Мельнікаў абеіма рукамі сьціснуў вінтоўку. Ён быў белы, як сьнег.

— Тры!—Ї чалавек у белай шапцы спусьціў курок. Але стрэльба толькі чыкнула. Ён націснуў яшчэ раз, і яшчэ раз чыкнула стрэльба. Вялізны чалавек хутка паглядзеў у затвор вінтоўкі, пстрыкнуў чатыры разы курком і голасна пачаў лаяцца.

— Бі з стрэльбы-ы-ы!—даносілася з берагу.

Мельнікаў моўчкі ўглядваўся ў белага.

— Як твае прозьвішча?

Яму здалося, што ён гэтага чалавека калісьці бачыў.

— Маё прозьвішча?—перапытаў той басам.

— Табе гэта патрэбна?

— У Мельнікава перавярнулася нутро.

— Тваё прозьвішча—Лебедзеў! Шчанё майго старога хадзяіна Пятра Сяргеявіча! Я цябе адлупцаваў аднойчы... Памятаеш? У садзе...

— Мельнікаў?—пытаньнем адказаў той хрыпла і ўдарыў Мельнікава кіем у грудзі.

Мельнікаў паляцеў з ног. Удар быў зусім нечаканы. Лебедзеў замахнуўся зноў. Мельнікаў ускочыў на ногі і ўдарыў па кію вінтоўкаю. Кій Мельнікава быў карацейшы, кія ворага. Мельнікаў кінуў яго. У наступную хвіліну ён хапіўся абейма рукамі за кій Лебедзева, і яны доўга так стаялі, трымаючыся за канцы кія, белыя, з вачыма, якія застанавіліся адзін на другім. І чым далей углядаліся яны, тым ясьней выплывала, з куточкаў памяці тая бойка, якая пятнаццаць год назад адбылася ў садзе каля сажалкі.

На беразе было ціха. Людзі ішлі за крыгамі моўчкі. Ім трэба было чуць, што робіцца на крызе. Туман апавіў іх, як ватаю. Цёмна-сіняе неба з двума парамі зорак нізка апусьцілася над Волгаю.

Мельнікаў пацягнуў да сябе кій. Лебедзеў, высокі, вузкаплечы дзядзя з барадою, доўга не даваўся, адпіхаў, упіраўся нагамі ў крыгу. Нарэшце іх крыгі пачалі сыходзіцца. Лебедзеў у апошні раз адпіхнуў ад сябе кій і апынуўся на адной крызе з Мельнікавым. Яны біліся стрэльбамі. У ход пашлі кулакі, зубы, падборы. Яны біліся бязупынна. Усё роўна адзін з іх павінен дохнуць! Часамі яны падалі разам. Ім пагражала адна небясьпека: скінуцца за крыгу. І кожны з іх ведаў, што адзін з іх можа пацягнуць за сабою і другога. Яны біліся каля гадзіны і нарэшце, паслаблі. Кожны з іх ня здолеў варухнуць рукою. Лебедзеў спудзіўся бясьсільля, прастагнаў:—

— Пусьці. Я не хачу. Я пайду на бераг.

Тое, што ён пачаў прасіць зьлітаваньня, зрабіла Мельнікава здольным падняцца на ногі. У ім загарэлася такая ненявісьць, к гэтаму дзікаму і бясьсільнаму чалавеку, што кулакі самі сьціснуліся.

— Г-э-э-й! — даносілася з берагу.— Ле-е-бе-дзе-ў!

І ў змроку Мельнікаў убачыў, што ўвесь твар Лебедзева заліты крывёй. Сам ён нічога не адчуваў. А ў яго таксама была праломана галава, і ён абліваўся крывёю, якая заляпіла яму вочы і вушы. У галаве стаяў звон, і здавалася, што зоркі на небе, і туман, і крыгі, і чорная вада,—усё гэта зьлілося над адным: упіралася ў зломаны кій і крок за крокам піхала Лебедзева на край крыгі ўсё бліжэй і бліжэй.

— Ле-бе-дзе-ў! — непакойна крычаў хтосьці ў тумане з далёкага берагу. Але Лебедзева на крызе ня было. Мельнікаў сядзеў на кажусе і ляскаў зубамі. Стала зусім цёмна. Стэп стаў чорным. Людзі на беразе, не атрымаўшы адказу, далі некалькі стрэлаў, але яны зусім згубілі тую крыгу, дзе сядзеў Мельнікаў. І крыга, хістаючыся адыходзіла ў туман, усё далей і далей...

Да Сьвішчоўкі засталося ўсяго тры вярсты.

# Гоман жоўталісьця

**Аркадзь Дуда**

Радасна і сумна шаласьцяць асіны—
Гоман жоўталісьця я пачуў у іх,
І нітуюць неба струны—павуціньня
Ў сонечных праменьнях чыстых залатых.

Заплялася песьня, заплялася ў ніцях—
Абнімаў рукамі залаты прастор...
Кружыцца лістота, кружыцца, імчыцца
Высьцілае ў полі восенскі ўзор.

А халодны вецер лётае, сваволіць
І шуміць ля рэчкі і шуміць трысьцё,
Я ў далёкіх далях бачу радасьць, волю
Хоць, і гінуць кветкі, але ёсьць жыцьцё.

Радасна і сумна шалясьцяць асіны,
Радасна і сумна шаласьцяць дубы.
У кляновых лісьцях віснуць павуціны
У срабрыстых ніцях жоўтыя сады.



Позна ўвосень.

# Сто два

Я. Акунёў

Машыністка пастукала на машынцы. Махнаты чалавек, увесь твар у залатой барадзе, шлёпнуў паперку пячаткаю. Хлапчук-пасыльны, скачучы праз вясёлыя вясновыя лужыны занёс паперку на тэлеграф. Тэлеграфіст, з тварам сыча, адбарабаніў паперку на тэлеграфным апараце. Ад гэтага і пачалося.

Ад гэтага, з-за гэтае паперкі, пераламалася жыцьцё ста двух чалавек. Пабегла па новай, нечаканай каляіне—ад гэтай паперкі, што машыністка выстукала на машынцы.

Кіраўнік рудніка, прыцісну́ўшы трубку да пакрытага пухам вуха, крычаў у тэлефон.

— Алё! **Шахта № 12**? Прышлеце безадкладна па сьпісу сем чалавек у рудакіраўніцтва. Так, безадкладна. Адкамандыравацъ з захаваньнем утрыманьня.

Ва ўсім раёне званілі **тэлефоны**. Ва ўсім раёне шахты атрымалі гэткія **тэлефонаграмы**:

— Безадкладна!

Сто два чалавекі, прапыленыя вугалем, твары—антрацыт. Прывучаныя да цемнаты, мутныя і ціхія вочы. Прыглушаныя галасы.

Трацiну жыцьця жылі пад зямлёю. Клець выносіла іх на верх, калі цьмянела неба і залатымі пушынкамі тлелі зоры. І, чуць выбраўшыся наверх, валіліся на нары і забываліся да раніцы. А раніцою ізноў—у чорны калодзезь шахты.

Сонца было па сьвятах, і таму ў карагодзе сьляпых дзён празьнікі былі іскрамі: успыхвалі—гасьлі. Дзеці? так, у некаторых былі дзеці. Можа быць, і гэтыя дзеці ўмелі сьмяяцца. Можа быць. Але ў дзень бацькі ў шахце, а ўначы няма дзіцячага сьмеху.

---

Ціпком пасьмейваліся інжэнэры.

— У **тэх-ні-кум**!—і паважна размахвалі паднятым угару пальцам.

— Разумееце. Малаграматных забойшчыкаў!

Ціпком сьмяяліся інжэнэры. Але ў рудакіраўніцтве сядзелі комуністы, і галасна інжэнэры таксама паважна падымалі палец:

— Савецкая ўлада—да!

Калі выбраныя па разьвёрстцы—адбор—прыходзілі ў кантору за камандыровачнымі, касір жартаваў.

— Студэнты! Д-да!—і павярнуўшы галаву чмыхаў:

— Л-лама-но-са-вы!

Але сто два забойшчыкі з розных руднікоў зьехаліся ў адно месца—у маленькі гарадок, правэнджаны і чорны, падобны да рудніка. Яны прыбывалі партыямі—раніцою і ўвечар ішлі ў разьбітую гасьцініцу без вакон і дзьвярэй, адведзеную ім пад агульнае памяшканьне.

Андрэй Макеяў быў першы з прыехаўшых і самы шумны. Толькі яго голас, гулкі, як з бочкі, гудзеў у агульным памяшканьні.

Высокі, сакераю высечаны, чорны, барада цьвічком.

— Даёш навуку!—гудзеў ён вялікім чмялём.

Але навукі яшчэ не давалі. Прышоў той самы залатабароды і махнаты, што прышлёпнуў паперку пячаткаю. Аглядзеў агульнае памяшканьне без вакон і дзьвярэй і скрывіўся.

— А памяшканьня для тэхнікуму ў нас няма яшчэ,—вінавата кінуў ён.—Але, пойдзем!

Усе сто два гурмаю крануліся за ім. Пераскакваючы праз вясёлыя, бліскучыя лужыны, прышлі.

— Вось!

Без вакон і дзьвярэй стаяў дом з разварочаным дахам. А ў доме кучы дзындры, сьмецьце, пабітае шкло. І яшчэ два карпусы—адны **падмуроўкі**.

— Бачце,—гэта будзе тэхнікум.

Вінавата казаў нешта пра **асыгноўку**, што яшчэ ня прышла з цэнтру, пра рэмонт, які будзе зроблен у тэрміновым парадку:

— У самым тэрміновым парадку!

Машыністка выстуквала на машынцы тэлеграмы, а хлапчук кур'ер насіў іх на тэлеграф.

— Вышліце асыгноўку! Вышліце асыгноўку!—дубэльтавалася па тэлеграфных правадох.

Калі зварыць пшано з вадою—будзе каша. Гэтую кашу—толькі яе—елі сто два шахцёры цэлы тыдзень, хадзілі ў выканком і пыталіся:

— Хутка **асыгноўка?**

— Хутка, таварышы, хутка!

Спалі на голых нарах і чакалі. Андрэй Макеяў гудзеў чмялём:

— Даёш навуку?

---

— Паслухайце, таварышы, у нас-жа ёсьць рукі.

Сто два чалавекі разглядвалі свае рукі, скаверканыя працаю, з простымі ногцямі, са скураю, як дубовая кара.

— Ну-так, рукі.

Андрэй Макеяў паказаў свае рукі.

— В-вось!

— Ну, й-што-ж?

Макеяў забубніў:

— На вошта-ж нам чакаць асыгноўкі?

— Па хатах, ці-што? Дрэфіш?

— Ды не!—матануў Макеяў бародкаю цьвічком.—Мы самі... без асыгноўкі, прападзі яна пропадам!

І зноў прышлі гурмаю ў выканкомна чале канавод, Андрэй Макеяў.

– Што няма асыгноўкі?

Залатабароды чалавек унурыў галаву:

— Я тут ні пры чым, таварышы!

— А цэглы ёсьць?

— Цэ-э-гла?—падняў бровы залатабароды.—На што вам цэгла?

— Нам трэба цэгла, вапна, гудрон—пералічваў на пальцах Макеяў.

Нам трэба шылёўкі, зялезныя балкі, дахавая жэсьць Потым цьвікі, шкло. А галоўнае—дайце нам струмант?

– Няўжо вы самі?

Залатабароды адступіў на два крокі і зьдзіўленымі вачыма згроб усю гурму—усе сто два чалавекі.

—Я-як! Дзе-ж гэта чувана? Каб будучыя студэнты самі..

А Макеяў:

— Дзе яшчэ з шахцёраў бываюць студэнты?

Усе сто два твары заўсьміхаліся і тады залатабароды паверыў:

— Добра, таварышы. Ёсьць цэгла, і шылёўкі і гудрон.

— І струмант?

— Ёсьць.

---

Азарт? Ну-так, гэта быў азарт. Сто два чалавекі цягалі цэглу (варылі гудрон са смалою ў катлох), пілавалі дошкі, капалі зямлю, рашчынялі ў ямах вапну. Жоўтыя ад цагельнага пылу, белыя ад вапны, шумна мітусіліся, сьмяшліва перагукваючыся!

— Даёш навуку?

Запявалі песьню, калі ўтома ламала сьпіны:

**Сами набьем мы патроны,**
**к ружьям привинтим штыки...**

Ужо жаўцелі занова выведзеныя сьцены, ужо стукалі малаткі па жасьцяных лістох на даху. Пахла ўжо падлога сьвежаю фарбаю.

Прышлі на будову чатыры чалавекі з малаткамі на аколышах шапак, а сьпераду—залатабароды—блішча зубамі, вачыма:

— Бачыце?

— М-м-да-а!

Макеяў з рубанкам у руках пахне дзеравянымі стружкамі.

— Вашы будучыя настаўнікі,—палашчыў яго вачыма залатабароды.

Тыя з малаткамі на шапках паўтарылі:

— М-м-да-а! Будучыя!

Адзін з іх, галава ў пушыстым срэбры, ускінуў плячыма.

— Калі гэта яшчэ будзе!

— Амаль гатова,—ткнуў пальцам на будынкі Макеяў.

— Гатова? А вучэбныя майстэрні? А абсталяваньне?

І махнуў рукою. На пальцы коратка блёснуў абадок заручальнага пярсьцёнка.

— Гэта не-маг-чы-ма!

Гулка засьмяяўся Макеяў:

— Ха-ха-ха! Немагчыма! Усё магчыма.

— Немагчыма!—падцьвердзілі ўсе чатыры настаўнікі.

— Хіба вы можаце наладзіць электрычнасьць?—запытаўся сівагаловы.

— Можам.

— А такарскія варшаты?

— Здолеем.

— А вучэбныя дапамогі?

— Выканаем.

Закурыў папяросу, дыхнуў добраю табакаю ў твар Макеяву:

— Пуф, пуф! будзем паглядзець, як вы гэта можаце.

---

Позна ўночы ў агульнае памяшканьне прышоў залатабароды. Усьмешка на ўвесь твар, у руках паперка. Размахваў паперкаю ў паветры:

— Асыгноўка, асыгноўка!

— Асыгноўка?

— Заўтра будуць грошы.

Сто два чалавекі сышліся з усіх пакояў. У пачтаніках і кашулях з шэрага таўстога палатна, валасастыя грудзі, рукі—у жылах, быццам вузлы.

— Асыгноўка?

— Грошы?

Нечы гучны радасны шлепанец па сьпіне таварыша:

— Ах, ёлкі зялёныя! Грошы!

Рыжабароды назваў лічбу.

— Ого! ого! Увесь банк расьцягнем!

І зноў дружацкі шлепанец.

— Здарова, маць твая радная!

— Заўтра, таварышы, можна на працу ня выходзіць. Наймем рабочых—яны закончаць будову,—сказаў усьмешліва рыжабароды.

Быццам хмара набегла.

— Што? другія?

Макеяў загуў:

— Мы пачалі, мы скончым. Тэхнікум наш ад першае цагліны да даху.

— Наш! Наш!

Як гай, узьняліся адзначаныя працаю рукі.

— Мы самі! наш тэхнікум.

Гарэлі вочы захапленьнем працы. Сто дзьве пары запаленых вачэй. І сто дзьве пары рук у працоўным захопленьні размахвалі ў паветры:

— Не дапусьцім нікога! Ад пачатку да канца самі.

— Дазвольце, таварышы, вы ня ўсё здолееце.

— Здолеем! Здолеем!

Згрудзіліся вакол, сьціснулі ў пярсьцёнак цел рыжабародага.

Успомніў нешта і ціха сказаў:

— А і я, таварышы, электраманцёрам быў.

І зусім шопатам, уваходзячы ў сябе думкаю, ціха паўтарыў:

— **Электраманцёрам** быў...

Потым голасна прамовіў:

— Я таксама заўтра на работу выйду. Устанавіць дынама. Электрычную станцыю. А? я ж электраманцёрам быў.

Старшыня губвыканкому, па старому, па дакастрычнікаваму—губэрнатар!

— Я электраманцёр.

---

Бачылі вы калі-небудзь на даху губар-на-та-ра? Губарнатар, з матком шнуру на шыі, з плосказубцамі ў руцэ. Грукае каленьмі па жэсьці, поўзае па даху, мацуе шнур. Старшыня губвыканкому—па дакастрычнікаваму становішчу: яго прэвасхадзіцельства!

І вось пашло. І пашло, і пашло!

Захапіла ўсіх, запляснула працоўным чадам

Сэкратар парткому лопнуў сябе па ілбу:

— Эх, чорт бяры! Я-ж маляр зусім!

Паперы к чорту! Пінжак далоў! Сэкратар парткому стаіць на лясках з вядром фарбы, з памазамі між пальцаў, вы-

451

водзіць па сінім грунце пад франтонам залатую літару Г. А далей па мелавой ліноўцы крэйдаю законтурана:

**Горны Тэхнікум.**

Старшыня ДПУ зусім не старшыня ДПУ, а сталяр. Так першаклясны сталяр, працаваў старэйшым майстрам на славутай фабрыцы мэблю „Штэкер з сынамі".

Ён працуе рубанкам і пілкаю, ляструє, паліруе і гудзе сабе пад нос:

Сами набьем мы патроны,
к ружьям привинтим штыки-и-и...

---

Такая хвароба разьнеслася па горадзе (мікроб. Мікроб працы, мабыць. Хіба такога мікроба ня бывае?).

— Псыхічная хвароба,—сказаў галоўны лекар бальніцы жонцы, каторая толькі адна ведае, калі нікога няма, і яны застаюцца ўдваіх, ён кадзет ад пят да лысае верхавінкі.

Начальнік гарнізону ўспамянуў, што ён, абойшчык. Два мэханікі па выпрацоўцы дакладных прылад знайшліся—з агітпропу і сэкратар саюзу мэталістых.

Уся Савецкая ўлада ў горадзе, і ўвесь partком стукалі малаткамі, фарбавалі, клеілі, лазілі па рыштаваньні з вёдрамі вапны, цэментам, з кладкамі цэглы на сьпінах, у машынным масле (у гудроне), у вапне, у пылу. Уся Савецкая ўлада.

Машыністка, каторая адлопала калісьці першую паперку, што ўзьняла ўсю гэную куламесу, ныла каля машынкі.

— Паперкі пісаць? Вось нуда! Кандыдатка я, здаецца? А?

На жаночым сходзе яна падняла бучу:

— Таварышы-жанчыны! Хіба мы не сябры працоўнае сям'і? Хіба не разбурана старое жаноцкае рабства?

І пашла, звонячы голасам на ўсю залю, пушыць жанаддзел за адсутнасьць ініцыятывы і сьпячку.

— Нядзельнік!

— Даёш жаночы нядзельнік!

— Абавязкова для ўсіх савецкіх служ-боўцаў-жанчын.

Выстрочвалі шытныя машынкі, рыпалі, кроючы ножны, бегалі пальцы з іголкамі па палатне і каленкоры. Шылі бялізну для агульнага памяшканьня, заслону для сцэны ў клюбе (драпіроўку). А па сьвежа-выфарбаванай падлозе тэхнікуму, зламаўшыся ў палову, шаркалі швабрамі і анучамі машыністкі, рэгістратаршы, кур'ершы, і сама загжанаддзелу, таварыш Мацьвеева. Так! І трэці раз прышлі людзі з малаткамі. У залі гарэлі электрычныя агні, глянцавалася падлога, блішчэлі лаўкі.

Сто два чалавекі сядзелі ў залі на лаўках. А старшыня губвыканкому і старшыня ДПУ, і сэкратар парткому, і начальнік гарнізону і загжанаддзелу—на сцэне. А машыністкі, рэгістратаршы, кур'ершы, якія падлогу глянцавалі, сцэну драпiравалі, страчылі, кроілі і шылі, залезьлі на хоры і звонка крычалі:

— Наша ўзяло!

Чатыры чалавекі ківалі галовамі. А старэйшы з іх—галава ў срэбры—шырока разьвёў рукамі:

— Ці бачылі гэткую справу?



**Мястэчка Малятычы (Магілеўшчына).**



**Першая зіма.**

# У нетрах Белавежы

*Успаміны з жыцьця Заходняй Беларусі*

## I. Ляўчук

Сьнежаньскі дзень, як заўсёды, выглядаў хмурна. Дзе-ні-дзе чуваць быў працяжны сабачы брэх, сьпевы пеўняў, скрыпеньне дзьвярмі гаспадара, які даглядаў жывёлу, кліканьне курэй рупнаю жанчынаю і здавалася ніводнага няма не занятага працаю.

Так выглядала вёска Гайдакоўшчына, Бельскага павету, Гараdзеншчыны. Вуліцы былі пустыя, толькі здаралася жанчына перабяжыць з вядром па ваду альбо з вадою. Не сядзеў толькі дома солтыс, Вакум Карчэўскі, ён быў страшна абураны партызанскім рухам і стараўся на кожным кроку шкодзіць у іх працы.

Даведаўшыся, што некаторыя хлопцы прыйшлі пераадзецца дамоў, паслаў за паветовай жандармэрыяй і мясцовай паліцыяй. Ён сачыў, ці скора прыедзе некалькі хурманак жандармаў у жалезных шапках, з чырвона-жоўтымі значкамі на каўнерах.

Нездаволены доўгім чаканьнем, Вакум захутаўся ў каўнер кажуха і накіраваўся да карчмы. Прайшоўшы сотню крокаў Вакуму паказалася без вакон школа, дзьверы якое пакрывіліся, дах пачаў прагніваць, толькі вецер быў гаспадаром будынку, як і сяляне паставілі ўласнмы рукамі.

Як толькі адчыніў дзьверы карчмы, яго спаткала Сорка, гаспадыня карчмы.

— А-а-а, як жывеце, пане Вакуме?!

— Жыву памаленьку,—хрыплым галасам адказаў Вакум,—чакаю ось гасьцей, штось доўга няма.

— Якіх гасьцей?

— Жандармэрыі, а то, Сорачка, завялося сьмецьце.

— Што вы кажаце, якое сьмецьце!?

— Зьбіраюцца ўзбунтавацца, што ночы страляніна, сьпевы бальшавіцкіх песень, агітуюць, каб сяляне не плацілі падаткаў...

— Вакумку, вы думаеце ўсё выплаціш, напрыклад: падатак гмінны, лёкалёвы, стайковы, пагалоўны, зямельны, памяшкальны, шпітальны, агнёвы, вайсковы.

— Як я бачу, то ты, Сорка, зрабілася камуністкаю...

Не дагаварыў свае прамовы Вакум, як у карчму стралою ўлятае Сарафіна і задыхаўшся пытае: „Ці дзядзька Вакум тут?—прыехала тры хурманкі палякаў, забралі нашага Кірыла, Сымонавага Лукаша, пайшлі да Марціна эўне, Алеся забяруць, бо ён учора прыйшоў перамяніць бялізну!..“

Сарафіна, вясковая дзяўчына, якая некалькі разоў дапамагала партызанам усякімі весткамі.

Вакум падняўся з зэдліка, па прывычцы закінуў палу за палу, і, не зьвяртаючы ўвагі на словы Сарафіны, выйшаў з карчмы, трушком накіраваўся да Марціна, каля хаты якога стаялі жандары, а чалавек дзесяць увалілася ў хату. Двое пайшло да каморы, дзе папераварочвалі ўсё дагары нагамі, двое пераглядалі кніжкі, двое шукаюць партызан у століку, за абразамі, у кішэнях, на паліцах і трамах.

Адзін, знайшоўшы ход на гару, меў замер лезьці, але другі яго спыніў, кажучы: „Нех стары лезе“, паказваючы на Марціна,—а то бэз гловы сень вруціш!“

У часе гэтае размовы ўвайшоў на падворак Вакум, а пасьля апынуўся ў вушакох, якія засланіў сваёю асобаю.

На ўвайшоўшага жандармэрыя падняла вочы, а ён працяжна выгаварыў: „Дзень добры, панове! Вот добра зрабілі, што прыехалі...

Вярнуўся вахмістр жандармэрыі ад паліцы, дзе ляжала некалькі кніжак, з сьпеўнікам у руках, дзе былі зьмешчаны: „Інтэрнацыянал“, „Марсэльеза“, „Пахавальны марш“...

Максім стаяў, абернуты да сьцяны з паднятымі рукамі ўверх, Марцівіха ў кутку, за жорнамі, малыя дзеці на печы.

— Дзе сын?!—грозна пытае вахмістр у Марціна.

— Паночкі,—кажа Марцін,—ён служыць у вас, у арміі... Магу пабажыцца... Няхай солтыс скажа... Ужо другі год, а я стары, марнуюся, падаткаў ня маю магчымасьці заплаціць, хіба прыдзецца прадаць апошнюю карову, каб пааддаваць іх.

Вахмістр Квяткоўскі, які кіраваў пятнаццацю жаўнерамі, абураны славамі Марціна, нарабіў крыку.

Моцна запіснулі Марціну кайданамі рукі, стукнуўшы ў далатак некалькі раз прыкладам ад карабіна.

Вочы Марціна заліліся крывёю.

Верны прыслужнік жандараў, солтыс, шапнуў вахмістру: „Трэба забраць яго з сабою пакуль ня прыдзе замяніць сын“.

Сусед, прыхільнік палякоў, учуўшы лямант, пераскочыў цераз плот і прыбег да расправы.

Адзін з вартаўнікоў, убачыўшы чалавека гадоў трыццаці палічыў за Марцінавага Алеся, але солтыс умяшаўся, заначаючы, што гэта адзін з лепшых сялян Гайдакоўскіх.

Словы солтыса ўважліва выслухалі жандары і загадалі вясковаму праваката-ру, Стасюкевічу Рыгору, запрэгчы каня ў санкі.

Калі быў загад выкананы, то вартаўнік пхнуў зьвязанага Марціна так, што здавалася, шасьцідзесяцігодні Марцін не ўстане, не падымецца.

Жандары распраўляліся па свойму: штыкамі шукалі ў сене, саломе, жыце, гарохвінах; вырвалі ў хляве, дзе стаяла сячкарня, падлогу. Але шуканьні былі дарэмныя, бо сын Марціна знаходзіўся далёка ад свайго парога—у нетрах Белавежы.

Прывезьлі Марціна ў Бельск, зрабіўшы яшчэ адзін пратакол, пасадзілі ў турму, па Беластоцкай вуліцы, у камэру № 5.

Турма—высокае каменнае памяшканьне, абгароджанае высокаю мураванаю сьцяною.

Дзьверы з паўторным скрыпам зачыніліся. Марцін апынуўся, як у каменным мяшку.

Марцін доўга не адважваўся паварушыцца з месца і аглядаў новы пакой, што на старасьці год адвялі яму.

Угледзіў—падлога цагляная, голыя зашмальцованыя сьцены, стаялі вядро і цэбар, вузенькае з тоўстымі кратамі вакно.

Марцін лічыў, што адзін будзе гаспадаром гэтага памяшканьня, але калі прыгледзіўся, то ўбачыў—у кутку нехта сьпіць, зьвярнуўшыся ў клубок на цаглянай падлозе.

Каб распазнаць—хто гэта, падыйшоў бліжэй і праканаўся, што гэта незнаёмы—вярнуўся на папярэдняе месца.

Пастаяў некалькі хвілін, Марцін апамятаўся і сьлёзы бліснулі ва старэчых вачох яго. „Прайшло,—думае Марцін,—шэсьцьдзесят гадоў, сьвецкаю нават ня быў, а на старасьці лет прышлося пакутаваць,—за што?..

Апусьціўся Марцін на калені, пачаў ні то маліцца, ні то прасіць, ні то лаяць нейкага.

Клубок заварушыўся. Чалавек прадупіў вочы, пры слабым сьвеце газьніка распазнаў чалавека. Падыйшоў бліжэй. Углядаецца і пазнаў Марціна, кажух якога быў заплямлены крывёю.

І Марцін прыгледзіўся і пазнаў знаёмага чалавека, які часта прыходзіў да яго хаты, радзіўся з хлапцамі, як кіраваць справаю, якую рабочыя Белавескае пушчы яму даручылі—гэта арганізаваць партызанскі атрад.

Так не малы час ён пакутаваў.

# Беларуская культура за дзесяць год

## Зьміцер Жылуновіч

Беларуская культура ў дзесяцігодзьдзе Кастрычніка ўступала зусім слабай. Яе разьвіцьцё толькі што пачыналася. Ня было сталага тэатру, зусім мала выдавалася беларускіх кніжок, толькі адна-дзьве газэты і ня больш журналаў. Ня было ніводнае школы, дзе-б выкладалі на беларускай мове. Пра музыку, пра мастацтва, пра навуку можна было марыць. Выключна наглядалася ажыўленьне ў беларускай літаратуры. На ёй адной фундамэнтаваўся ўвесь беларускі культурны рух. Але і ў літаратурным жыцьці сустракалася многа перашкодаў да яго разьвіцьця. Беларускія пісьменьнікі ўрыўкамі пісалі свае творы, а напісаных ня мелі дзе друкаваць.

Ды зразумела: беларуская культура ў той час і не магла расьці. Вакол панавала культура расійскіх чыноўнікаў і польскіх паноў, недаступная рабочым і сялянам і клясава ім варожая. Беларусь была ў стане забранай, падняволенай краіны. Кіраўніцтва ёю з боку губарнатараў ды маршалкаў забараняла ўсякую праяву самастойнага жыцьця. І беларускі рабочы ды селянін павінны былі жыць цёмнымі без свайго імя, без свае культуры

1917 год усё пераіначыў. Лютаўская рэволюцыя разьбіла самадзяржаўны парадак.

Рэволюцыя Кастрычніка зьнішчыла буржуазна-чыноўнічы вастрог народаў. Разам з іншымі падняволенымі краінамі вызвалілася да свабоднага палітычнага і нацыянальнага жыцьця і Беларусь. Беларускі рабочы і селянін сталі самі сабе гаспадарамі.

І вось з гэтага часу хутка пачала расьці і разьвівацца беларуская культура. У 1921 годзе, толькі прышло замірэньне з палякамі, залажылася беларускае выдавецтва. Тады-ж быў заснаваны першы беларускі тэатр у Менску. Народны камісарыят асьветы стаў адчыняць беларускія школы. Нейкі час спусьціўшы, у Беларускай рэспубліцы адчыніўся унівэрсытэт і пачала працу беларуская тэрміналёгічная камісія. Унівэрсытэт, а галоўным чынам, тэрміналёгічная камісія, пазьней перайменаваная ў Інстытут Беларускае Культуры, узяліся за навуковую работу.

На працягу далейшых гадоў гэта работа на многа вырасла і паглыбела. Беларускі першы тэатр стаў сур'ёзным, сталым—давёўшы мастацтва свае ігры і дасканаласьць пастановак да ўзроўню, які стаіць у знатных тэатрах іншых краін. У дадатак да першага беларускага тэатру падгатаваўся і ў мінулым годзе пачаў сваю працу—другі беларускі тэатр. Аб абодвух гэтых тэатрах вельмі добра адзываюцца тыя з заграНічных людзей, якія бачылі іх пастановы.

Нарадзілася і вырасла ў значную сілу беларуская музыка. Заснованы музычны тэхнікум вядзе над яе далейшым разьвіцьцём вялікую і сур'ёзную працу. Ад музыкі не адстала і беларускае мастацтва. Усебеларуская выстаўка мастацкіх твораў (абразоў), што адбылася ў 1926 г. у Менску паказала вельмі значныя дасягненьні ў гэтым напрамку. Цэлы шэраг беларускіх мастакоў, пахаджэньнем з сялян ды рабочых, канчаюць асьвету ў Маскве і Ленінградзе, каб пасьля вярнуцца да працы на Беларусь.

Больш сотні вучацца ў Віцебскім мастацкім тэхнікуме.

На вялікую вышыню паднялася беларуская навука. Інстытут Беларускае Культуры, які зараз перарабляецца ў беларускую акадэмію, павёў шырокае вывучэньне гісторыі, старажытнасьці, глебы, экономічнага стану. Па кожным пытаньні ўжо зроблена шмат досьледаў і напісана многа кніжак. У дапамогу Інстытуту Беларускае Культуры, інстытут сельскай гаспадаркі імя Леніна, заснованы ў леташнім годзе, вядзе навуковае дасьледваньне сельскага гаспадарства з мэтаю яго палепшыць, зрабіць выгаднейшы для сялян.

Унівэрсытэт, даючы работніцкай ды сялянскай моладзі атрымоўваць вышэйшую навуку, падгатаваў і выпусьціў на працу сотні дактароў, настаўнікаў, знатакоў экономікі. Горацкая сельска-гаспадарчая акадэмія падарыла нашай рэспубліцы многа аграномаў і лесаводаў. Другія

навуковыя ўстановы, як вэтэрынарвы інстытут, пэдтэхнікумы, школы рамесьленыя і сялянскай моладзі, пасьпешна гатовяць працаўнікоў.

Надзвычайна далёка за гэтыя дзесяць гадоў сягнула асьвета. Калі перад рэволюцыяй у школах вучылася толькі процантаў 20-25 дзяцей, то зараз іх вучыцца да 80 проц., а ў некаторых акругах (Менская) уведзена агульнае абавязковае навучаньне. Пры гэтым беларускія дзеці па ўсёй Савецкай Беларусі, ва ўсіх школах, вучацца на сваёй роднай беларускай мове.

Школы як ніжэйшыя, гэтак і вышэйшыя забясьпечаны кніжкамі. Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва за гэтыя гады выдала да тысячы назваў розных беларускіх кніжак. Лік гэтых кніжак дасягае да мільёна штук. Апроч кніжак, выдаецца да дзесятку беларускіх газэт у Менску і ў іншых беларускіх гарадох, як: „Савецкая Беларусь", „Зьвязда", „Беларуская Вёска", „Чырвоная Зьмена", „Чырвоная Полаччына" і інш. Выдаюцца часопісі—„Полымя", „Маладняк", „Беларускі піонэр", „Асьвета".

Гэта кніжна-друкарская справа, якая абымае сабою літаратурнае жыцьцё, зьвярнула на сябе ўвагу ня толькі ў нашым Саюзе, а і за рубяжом. Творы беларускіх пісьменьнікаў, перакладаюцца на расійскую, чэскую, нямецкую, польскую і іншыя мовы.

І вось, уся гэта агромная культурная праца зрабілася пад непасрэдным уплывам пераможнага Кастрычніка. Вызваліўшы Беларусь ад вякавое няволі, Кастрычнікавая рэволюцыя абудзіла захаваныя сілы беларускіх рабочых і сялян, накіраваўшы іх на шлях упартае вялікае працы. Скутак тае працы—на воку. Ім мы павінны гардзіцца і цешыцца. Але цешачыся сваімі дасягненьнямі ў культурным будаўніцтве за мінулыя дзесяць год—мы павінны яшчэ з большым стараньнем весьці нашу працу надалей. Бо наша савецкая Беларусь мусіць да рэшты зьнішчыць векавую цемру і стаць моцнаю культурнаю айчынаю беларускіх рабочых ды сялян.

Дык пад сьцягам Кастрычніка—сьмела і рашуча пераступайма ў новае дзесяцігодзьдзе!



**У Горацкай Сельска-Гаспадарчай Акадэміі.**

# Беларуская Сельска-Гаспадарчая Акадэмія ў Горках



Адзін з будынкаў акадэміі.



Палепшаны гатунак авечак у гаспадарцы акадэміі.

# Агляд вершаў надасланых у рэдакцыю „Чырвонага Сейбіта“

**П. Глебка**

I

Ужо некалькі разоў адзначалася ў друку, што рэдакцыі газэт і часопісаў завалены літаратурным матар'ялам маладых пісьменьнікаў і што ў большасьці матар'ял гэты—вершы. Ні адна рэдакцыя так не завалена вершамі, як рэдакцыя газэты „Беларуская Вёска“. Да 15 кастрычніка ў рэдакцыі было каля тысячы вершаў 185 маладых літаратурных дапішчыкаў. На сёняшні тыдзень як лік поэтаў, так і лік вершаў, бязумоўна, шмат павялічыўся.

Няма ніякае магчымасьці, ня гледзячы на ўсе просьбы тых, хто піша, даць кожнаму ў паасобку адказ ці параду наконт яго вершаў, бо дзеля гэтага трэба было-б пасадзіць спэцыяльна чалавека, а то й два. Выходзячы з гэтага, рэдакцыя сабрала ўсе вершы, якія былі атрыманы да 15 кастрычніка, падзяліла іх на чатыры катэгорыі і такім чынам пастараецца даць усім агульны адказ.

Да першай катэгорыі аднесены тыя „вершы“, якія нельга назваць вершамі, бо ў іх няма ніводнага элемэнту, якім характарызуецца верш, а менавіта—ні рыфмы, ні рытму, ні вобразу. Да другой катэгорыі належаць вершы, у якіх ужо можна знайсьці і рыфму (хоць ня ўсюды) і рытм (які часта-густа ня вытрыманы) і, нават, зрэдку сьвежы, сакавіты вобраз. У трэйцюю катэгорыю ўнесены тыя вершы, якія, апрацаваўшы троху, можна б і надрукаваць. І, нарэшце, да чацьвёртай катэгорыі належаць вершы, годныя да друку. От-жа кожную катэгорыю паасобку мы і разьбярэм.

II

Па тэматыцы вершы першае катэгорыі падзяляюцца: на вершы пра сваю песьню, пра каханьне і дзяўчыну, пра рэвалюцыйныя сьвяты, аб прыродзе (апісаньне прыроды) і больш усяго вершаў пра розныя дробныя здарэньні ў вёсцы, як напрыклад, як злавілі самагоншчыка, як пабіўся мужык з жонкаю, як пастух перамяніў за лета некалькі жанчын, як сякуць бярозы на шляху, адным словам дробныя, не агульныя праявы жыцьця, аб чым лепш было-б напісаць корэспондэнцыю. Сярод іншых вершаў шмат сустракаецца перакладу з расійскае мовы, няўдалых перакладаў і не зазначаных, што гэта пераклады, а выдадзеных за свае ўласныя творы, як напрыклад, верш Новага „Вясноўскія воды“. Што тычыцца формы, дык як ужо зазначалася ўсю гэту пісаніну нельга назваць вершамі. Бяру прыклад—верш Антона Івашкі „моладзь“.

„Ах моладзь, моладзь,
куды ты схавалася,
мусіць болей ні бачыць цябе
ты хутка ад мяне уляцела“ і г. д.

Ня кажучы ўжо пра тое, што тут няма ніводнага ўдалага мастацкага звароту, няма рыфмы, рытму, дык тут яшчэ нават сапсута мова; замест маладосьць—моладзь і ў гэткім духу напісаны ўвесь верш. І калі мы напішам гэты верш звычайнымі радкамі, дык хто адважыцца сказаць, ці хто ўгадае, што гэта—верш?—Ніхто!

Падобныя да гэтага „лірычнага вершу“—вершы на рэволюцыйныя тэмы. Зноў бяром, як прыклад, першы, які папаўся пад руку верш, Пісарчыка „У хуткім часе“:

„Тады блізка будзем мы
ля соцыялізму
і ня будзем думаць
мы аб камунізму“...

Якая думка ў гэтым вершы? Думка, бязумоўна, адсутнічае як нешта цэлае, а ў паасобных радкох, як у пададзеным урыўку—няправільная. І гэта не ў аднаго Пісарчыка, а шмат у каго зусім няма думкі альбо ёсьць сьмешная, дзіцячая. Верш-жа патрабуе яснае думкі, суцэльнай і глыбокай; верш патрабуе таксама мастацкай формы, прыгожых зваротаў, звонкіх і музычных рыфмаў і слоў. Гэтага нічога няма ні ў водным радку тых вершаў, якія аднесены да першай катэгорыі. Трэба яшчэ сказаць некалькі слоў пра мову і граматыку гэтае пісаніны. Здавалася-б, што паколькі гэтыя дапішчыкі жывуць у вёсках (у большасьці), сярод беларускага сялянства, дык мова іх павінна быць чыстаю, прыгожаю, народнаю,

аднак выходзіць іначай. За малым выключэньнем мы сустракаем калечаную беларускую мову. Я не кажу ўжо пра русізмы, а кажу пра звароты, пра перакручваньні слоў часта для рытму. Прыклад—верш Шкурскага „Май". Падаецца без усялякіх зьмен правапісу і граматыкі.

„Як мы мая дожидали
трепеталось наше сердце, что майски
дни вельми сладки?
Уже можна ўгледзяць
у маи розных прынатки"...

І далей:

„Яки ў май воздух пріятны;
мы подушым чорны пятны" і г. д:

Вось прыклад граматыкі і правапісу. І такіх прыкладаў гібель.

Да першай катэгорыі належыць каля 200 такіх вершаў 75 наступных асоб:

Новага, Шкурскага, Мужычка, Я. Дубовіка, Івашкі, Лондарскага, Жалуновіча, Дражніка, Кульпановіча, Пятроўскага, Вясковага, Дынаміка, Аляхновіча, Песенькі, Мароза, Ломанца, Чарвяка, Пылінкі, Рыжага, Катэржэнца, Дзянісэвіча, Ярацкага, Ванчукевіча, Ліньніка, К. Ярмака, Гайдэкі, Карбоўскага, Макая, Бачылы, Рунца, Пархімовіча, Шышкаўца, Кленікава, Дзядзічкіна, Федасенкі, Шпанюка, Злотніка, Анціпенкава, Кучаравага, Хмары, Холада, Валасэвіча, Мазанікі, Быкоўскага, Дудара К., Малюкевіча, Акуліча, Сьліўкі, Кветкі, Кржэчкоўскага, Кручкова, Галубовіча, Шаршаткі, Пісарчыка, Ярмолава, Вярбы, Чарнушэвіча, Бародкі, Бычка, Баркуна, Камароўскага, Лазы.

Вершы ўсіх пералічаных таварышоў друкавацца ня будуць, папершае, і, падругое,—мы бязумоўна, ня ўпэўнена, але ўсё-ж зазначаем, што здольнасьці да пісаньня вершаў у пералічаных асоб не адчуваецца З гэтае прычыны мы параілі-б ім пакуль што ўстрымацца ад пісаньня вершаў і падвучыцца наогул, калі ўжо ў іх такая хэнць да пісаньня.

III

Другая катэгорыя ахоплівае сабою меншы лік пачынаючых поэтаў чым першая, а менавіта 75 асоб; затое лік вершаў тут значна большы—каля трохсот. Па тэматыцы вершы другой катэгорыі мала чым розьняцца ад першае: і тут мы знаходзім і песьню, і каханьне, і рэвалюцыйныя сьвяты, і папоў, і прыроду, і апісаньне розных вясковых яў. Як новая тэма вершаў другой катэгоры —гэта Беларусь і „Мой край" апяваецца амаль цэлымі радкамі Якуба Каласа, Янкі Купалы. Наогул насьледаваньняў Якубу Коласу і Янку Купалу шмат і ў іншых вершах, як напрыклад: поэма Скрынковіча „Аб мінулым", ёсьць нішто іншае, як перакручаны „Курган" Купалы. Што-ж дае прычыну аднесьці гэткія вершы да другой катэгоры? Дае ня тэма, ня думка, ці зьмест вершу (якіх часта няма), а толькі формальныя адзнакі. Як зазначалася спачатку, вершы другой катэгоры маюць ужо і рытм і рыфму, а часамі і і вобраз. Вось тое, што аўтар ужо апанаваў рытмам, можа знайсьці і паставіць рыфму, можа даць вобраз і вылучае яго ў другую катэгорыю. Бязумоўна, што вершы і гэтае катэгоры нельга ў поўным сэнсе слова назваць вершамі, бо гэта часта рыфмаваная прамова, альбо набор слоў ня зьвязаных думкай, ня толькі ў вершы цалкам, а і ў паасобных радкох. Прыклад.

„Засьвяціла ясна сонца
і пачаў вясёлы дзень".
(З вершу А. Пушкарова).

Што пачаў вясёлы дзень? Ці ён пачаў вершы пісаць, ці ён пачаў сьпяваць—невядома. Аўтар мусіць хацеў сказаць, як засьвяціла сонца—пачаўся дзень, але паколькі адзін склад „ся" ня ўлазіў у памер, прышлося яго патурыць і вышла „пачаў". Падобных бяссэнсіц шмат. Так, Прыбыль, піша, што калі ён быў пастухом, дык:

„Песьні я пеў і заводзіў
у балотных лазовых карчох".

Чаму гэта, тав. Прыбыль, вы сьпявалі ў карчох, а не на пні? чаго гэта вас занесла аж у корч? Дзіўна! Вось, Кохан, дык той іначай: ён сам ні куды ня лазіць, а парадак ідзе за маё-маё; у яго нават дождж зямлю сёрбае:

„Плылі па небе хмары,
а дождж зямлю сярбаў".

Можна сярбаць зацірку, ды й то лыжкаю. Яшчэ шмат псуе вершы гвалт над моваю, часта для рытму, альбо для рыфмы аўтар мяняе націск слова па свойму жаданьню, а дождж лыжкі ня мае.

Так, напрыклад, Скрынковіч заместа „жылі"—піша жылі" (для рытму), або заместа „угледзела"—піша „ўглядзела"

(для рыфмы) і г. д. Шмат вельмі ў дзеясловах кароткіх канчаткаў, як „рушылась“, „сновалась“, „прышчапіліс“, што не ўласьціва беларускай мове. Гэты гвалт над мовай псуе музычнасьць мовы, а разам з тым і вершу, ад чаго і верш цяжка чытаецца, не захоплівае сваёю звонкасьцю.

Да другое катэгорыі аднесены вершы наступных таварышоў:

Цішко, Янкі Водгука, Бедна-Гаротнага, Абшарнага, Баравога, Хмары, Шатэрніка Г., Дзеркачова, Я. Карлова, Зоркі, Цішкевіча, Галаўёва, Пятрушкі, П. Надзеі, Чэркоса, Варанецкага, Далочаніна, Астрэйкі, Бульбяніка, Пятроўскага М., Кугара, Скрынковіча, С. Гутняка Квяцістага, Сьцельмашука, Ліпіна, Я. Шавеля, Кулакоўскага, Вербалоза, Прыбыля, Т. Гэтава, Клімовіча, Чыгіра, Калечыца, Лісоўскага, Калугіна, Шаўчона, Бурдзіцкага, Гальперовіча, Кохана, Траўкі, Агністага, Сягая, Шаіркі, Сетванава, Чароціны, Р. М., Маліны, Кройкі, Рагашкі, Новікава, Сарокава, Пушкарова, Якубовіча, Ермалаева, П. Скокава, Былінкі, Крыцкага, Таратуткі, Карцеля, Імшарыны К, Тубельскага, Пераца, Гарбуза, Ясючэні, Крыніцы, Асота Ш., Камлюка, Мурожнага, Хацкевіча, Сечкі, Галадкоўскага, Вярбы, Дубовага, Мануільскага.

Вершы ўсіх пералічаных таварышоў друкавацца ня будуць. Раім больш чытаць беларускіх і расійскіх поэтаў. Самае-ж галоўнае больш увагі да сваіх вершаў, больш працы. Ня трэба гнацца за колькосьцю, а трэба гнацца за якасьцю. Лепш напісаць у год адзін добры верш, чымся тысячу кепскіх.

IV

Да трэйцяй катэгорыі належаць вершы наступных таварышоў:

Бяздольнага А., Энціна, Астапенкі, А. Гладкага, А. Золака, Лішанкова, Вераса, Асіты, Праменя, Дзямідовіча, Гаенскага, Мяжы, Адзерыха, Сьвятловіча, Быкоўскага, Дуброўскага, Хмеля, Ліпаўкі, Кісялёва, Жаўрука. У іх заганы тыя-ж самыя, што і ў вершах другой катэгорыі і розьніца адна—гэтых заган трохі меней. Па тэматыцы—гэта ўсё перапевы старога: горад, вёска, радасьць, песьня і г. д.; і няма, за рэдкім выключэньнем, вершаў з новаю думкай, сьвежымі вобразамі. „Далі пунсовыя“, „Нябесная сінь“, „усьмешкі жыцьця“, „звон песьнь“—вось і ўсе вобразы, якія па рознаму пераблытваліся ўжо тысячу раз. Ня ўсе таварышы аўладалі поўнасьцю тэхнікай вершу: у рытме адчуваюцца зрывы, рыфма часамі адсутнічае. І вось галоўныя заганы: адсутнасьць новай думкі і сьвежых вобразаў—перапевы тэхнічная неапрацоўка-шурпаватасьць.

Якія-ж можна даць парады гэтым таварышам? Парада адна—чытаць, больш чытаць. Чытаць вершы (Купалы, Дубоўкі, Брусава Александроўскага, Казіна і інш.), чытаць прозу, чытаць і вывучаць народную творчасьць; вывучаць тэорыю вершаваньня. Па апошняму пытаньню (пакольні на беларускай мове няма) можна параіць наступныя падручнікі на расійскай мове: Шэнгелі—„Как писать стихи, расказы и статьи“, Б. Тамашэўскі—„Русское стихосложение“, Валеры Брусаў—„Опыты“.

Добра было-б, каб тыя з пералічаных таварышоў, якія маюць магчымасьць, зайшлі ў рэдакцыю—тады-б вусна можна было-б больш шырэй пагаварыць наконт іх вершаў і перадаць іх для апрацоўкі. Па магчымасьці некаторыя з гэтых вершаў будуць выпраўлены і надрукаваны, але ня ўсе. Што тычыцца вершаў чацьвёртай катэгорыі, дык пра іх шмат гаварыць ня трэба. Гэта вершы такіх таварышоў, якія ўжо трохі выявіліся на нашых старонках, як напрыклад—Беразоўскага, Багунца, Камлыгі ды інш. Гэтыя вершы часткаю выкарыстаны ўжо, а часткаю будуць надрукаваны (вядома ня ўсе).

Што-ж да вершаў, якія надасланы гэтымі днямі, дык яны будуць у хуткім часе разгледжаны.



# Літаратурныя творы прозай вясковых аўтараў

Кузьма Чорны

## 2. Аб голай агітцы

Малады аўтар з вёскі Багушэвіч, І. Дуброўскі, напісаў апавяданьне: вясною шырока разьлілася рэчка, а па рэчцы плывуць плыты ...„Стукаюцца ў круты бераг, адарвуць кавалак зямлі і плывуць далей. Плывуць і скрыпяць. На плыту стаіць Мацьвей—худы і высокі мужчына. Стаіць і адпіхае доўгім штылем плыты ад берагу. Вада сіняя плешчацца. Набягае на ногі Мацьвею і мочыць іх. Аборкі мокрыя, моцна цісңуць ногі"... Цікавіць мастацкі пачатак гэтага апавяданьня. Прыгожы рытмічны стыль. Далей некалькі ўдалымі сказамі высьвятляецца настрой Мацьвея, яго думкі аб заработку на гэтых плытох, аб грошах. І пасьля у поўнай гармоніі з папярэднім, зноў апісаньне: „яны плывуць і плывуць. Мінаюць берагі, лукі, ракітавыя кусты; і Мацьвей з плытамі ўсё далей і далей".

Але раптам, ні з сяго ні з таго Мацьвей і іншыя плытагоны ўжо ідуць па дарозе, гаворачы аб тым, як яны кагадзе гналі плыты. А праз некалькі радкоў яны ўжо выпіваюць у піўной. А яшчэ праз некалькі радкоў Мацьвей ужо дома гаворыць з дзецьмі. І вось тут трацішца добрае ўражаньне ад мастацкага пачатку гэтага апавяданьня. Нявытрыманасьць кампозыцыі. Аўтар пачаў прыгожа расказваць, а пасьля як-бы яму раптам надакучыла і ён пастараўся чым найхутчэй скончыць усё.

Дома сын Мацьвея—комсамолец, пачаў угаварваць бацьку каб ён зароблены грошы палажыў у касу ашчаднасьці, але Мацьвей сына не паслухаў, а схаваў грошы пад бэльку, дзе іх зьелі мышы. Такім чынам, прыгожа пачатае апавяданьне, якое мастацкім пачаткам сваім зацікавіла, у канцы зьвялося на агітку за касу ашчаднасьці.

Газэтная агітка, патрэбная ў свой пэўны час,—адно, а мастацкі твор—другое. Агітка таксама можа быць мастацкаю, і нават павінна быць такою, для большага свайго посьпеху. Агітка для газэты нам патрэбна. Але тут перад намі іншыя задачы. Вёска павінна даць сапраўдных глыбокіх мастакоў слова, якія-б паказалі ў сваёй творчасьці наша жыцьцё з усёю глыбінёю нашых радасьцяй і пакут. Цяпер, калі з вялікімі цяжкасьцямі нараджаецца і ўстанаўляецца новая вёска, калі ломяцца і крышацца старыя сьветапагляды сярод сялянства, цяпер, як ніколі раней, глыбокія задачы стаяць перад літаратурай. І от з маладых вясковых аўтараў павінны вырасьці такія, якраз, пісьменьнікі, якія ў сваіх творах выявяць усе глыбіні гэтага вялікага процэсу. От што трэба ведаць вясковаму маладому аўтару.

Вернемся да разгледжанага апавяданьня. Ці даў тут аўтар жывых людзей? Не, ня даў. Тут больш-менш добра дадзены толькі Мацьвей. Ёсьць некалькі мастацкіх сказаў, якія да некаторай ступені акрэсьліваюць Мацьвея, як тыпа. Нават сказ, што вада мочыць яму ногі, а аборы з лапцей моцна цісңуць іх, часткова вырысоўвае яго. Мацьвей больш-менш абрысаваны. Рэшта-ж асоб, якія дзейнічаюць у апавяданьні, зьяўляюцца фактычна не асобамі, а ідэямі; яны не паказаны, як людзі. Напрыклад, сын Мацьвея—комсамолец Андрэй. Ён у апавяданьні толькі і паказаны з таго боку, што агітуе бацьку за касу ашчаднасьці. Ён вышаў толькі разуменьнем пэўнае ідэі, а не чалавекам.

Ёсьць у аўтара гэтага апавяданьня мастацкія спосабы, якія паказваюць на яго здольнасьць і мастацкі густ. Напрыклад, аб тым, што Мацьвеяў сын комсамолец, мы даведваемся не ад аўтара, а ад самога Мацьвея, які гаворыць сыну: „ну якжа ты тут маешся, мой комсамол?". Тут ужо пачаткі таго мастацкага спосабу, калі аўтар у сваім творы не гаворыць аб людзях ці падзеях, а паказвае іх; калі ўсе абставіны высьвятляюцца самі сабою, разам з разгортваньнем ідэі. Мастацкі густ аўтара яшчэ відаць з таго, што аўтар імкнецца даваць не адну голую думку свайго апавяданьня (карысьць ад касы ашчаднасьці), а вакол гэтага высьвятляць як-бы абставіны, у якіх і якімі жывуць гэроі апавяданьня З гэтага боку цікавая зьяўляецца гаворка Мацьвея з сынам:

— ...ці адсеяўся тут без мяне?

— От жывецца трохі, і адсеяўся прыблізна.

І гэтак далей.

Апавяданьне гэтае можна надрукаваць.

От апавяданьне А. Сечкі „Два сябры“. У апавяданьні гэтым аўтар хацеў пака-заць некалькі адмоўных зьяваў у сучас-ным жыцьці вёскі, асьмяяць адмоўных ты-паў, мусіць. І ён піша, што ў дзень пер-шага траўня ў вёсцы адбывалася ўра-чыстасьць. А тымчасам два сябры—Язэп і Тамаш, спаткаўшыся, пачалі гаварыць аб тым, што вось „сёньня ўсе падліч-ваюць свае сілы, давай памераем і мы свае—колькі мы можам выпіць гэтае са-маробнае сівухі“. У той час, як у вёсцы адбываўся мітынг, яны напіліся і п'яныя ўваліліся ў ваду. Апавяданьне напісана прымітыўна, так як аўтар расказваў-бы гэта свайму знаёмаму. Аднак, без такое мастацкае прастаты, якая ёсьць у народ-ных казках[1]). Апавяданьне гэтае поўна халодных разважаньняў, у якіх чуецца голая агітацыя супроць самагону. З гэтае дробнае зьявы, добры гумарыста мог-бы стварыць гумарыстычнае апавяданьне, ужыўшы гумарыстычна-вострыя звароты мовы. У тав. Сечкі апавяданьне гэтае вышла нецікавым, нудным, немастацка-простым. Пішучы, аўтар не перажываў свайго твору. Некаторыя адзнакі зусім іншае зьявы наглядаюцца ў другім літа-ратурным допісе гэтага аўтара „На пес-кавой дарозе“. У гэтым малюнку аўтар стараецца выказаць свае адчуваньні, калі ён ішоў пехатой з Менску ў сваю вёску на Случчыне, пасьля экзаміну на рабфа-ку. Ён, як органічна зьвязаны з вёскаю, чула перажывае ў часе свайго падарожжа, усё тое, што прырода разгарнула перад ім.

Годна гэтае апавяданьне да друку ці не—гэта пытаньне іншае, але тут самае важнае тое, што гэты твор ужо робіць нейкае сваё ўражаньне на чытача. І вось тут мы падышлі да пытаньня аб шчыра-сьці і няшчырасьці ў творах Аб мастац-кай праўдзе. Аб гэтым пагаворым у на-ступных разьдзелах артыкулу, а цяпер далей.

Апавяданьне Алеся Гладкага „Тры сьмерці“. Пачынаецца апавяданьне апі-саньнем вечару—як заходзіла сонца, як узьнімаўся туман, як пахлі веснавыя дрэ-вы. У сваёй хаце сядзеў на зэдліку „ду-хоўны бацька“, глядзеў на свае даўнейшыя пакоі і нудзіўся па тым, што мінулася даўнейшае жыцьцё. З боку **композыцыі** падзеяў, апавяданьне гэтае зьяўляецца закончаным цэлым. Аднак, з боку спосабаў **выяўленьня** людзей і падзей, яно не зьяўляецца мастацкім. Тут зноў вінаваты элемэнты голае агіткі, якія празьмеру вы-піраюцца ў апавяданьні. Так, жадаючы выказаць думку, што замест старога, гні-лога жыцьця, мы будуем жыцьцё новае, моцнае, прыгожае, аўтар прымушае свай-го гэроя—папа, сьвядома думаць: „Эх жыцьцё! як магутны твае хвалі, яны пе-раціраюць у пыл усё старое і на руінах будуюць усё новае, моцнае, прыгожае“. Захапіўшыся агітацыяй за новае жыцьцё, аўтар дапусьціў псыхолёгічную памылку. Калі поп сьвядома лічыць, што ранейшае жыцьцё было гнілым і няпрыгожым, а ця-пер будуецца жыцьцё моцнае і прыгожае, дык ён павінен, калі сам ня прыняць удзелу ў гэтым будаваньні, дык прынам-сі ня нудзіцца па старым жыцьці. Аднак, ён нудзіцца і ненавідзіць новае. Такім чынам ён ня можа лічыць тое, што цяпер вакол яго робіцца, прыгожым. Ненаві-дзець, цярпець ад яго і называць яго пры-гожым, новым і моцным! Такі духовы разлад чалавека, скалечанага бурным ру-хам гістарычных падзей, можна паказаць толькі ў глыбокім псыхолёгічным творы, абгрунтаваўшы ўсё гэта праўдзівымі пе-радумовамі, паказаўшы гэтага чалавека з усіх яго, з нашага пункту гледжаньня, адмоўных і дадатных бакоў.

Далей у апавяданьні—поп пачуў крык, што гарыць царква. Ён схваціў абраз і пабег туды. Царква гарэла і ніхто яе ня тушыў. Поп стаў крычаць, але моладзь, якая была ў клубе, ня лічыла патрэбнымісьці тушыць царкву. Раптам падбег да папа піонэр і сказаў: „Кіньце, дзядзька, крычаць ды палохаць людзей, няхай га-рыць, нашто яна нам больш, мо' будзе крыху цішэй—ня будуць званіць нудна званы“... Поп абразам забівае піонэра, а пасьля, прышоўшы дадому, падумаўшы аб судзе, турме, заплакаў моцна, глыбока, балюча. І забіў нажом сам сябе. На трох з палову вузенькіх лісточках паперы столькі лёз і крыві, і ўрэшце з усяго гэтага г лая антырэлігійная агітка, якая, аднак, дзякуючы сваёй немастацкасьці, нікога не пераконвае, нічога не памагае і культурны мастацкі сказ: „заплакаў моц-на, глыбока, балюча“. Я наўмысьля ад-значыў гэты сказ, бо ён ёсьць мастацкі:

[1]) Маладым вясковым аўтарам вельмі карысна начытаць народныя казкі. Напрыклад зборнік казак, што сабраны Сяржпутоўскім на Случчыне. Зборнік у гэтым годзе выдрукаваны Інстытутам Беларускае Культуры. Там можна павучыцца зваротам мовы і некаторым спосабам стылю.

поп наш соцыяльны вораг, але мы праўдзіва гаворым аб ім. Ненавідзячы ёдзін аднаго вялікаю соцыяльнаю нянавісьцю, мы з ім абодва жывём, думаем, адчуваем, кожны па свойму пакутуем, радуемся. Гэта ёсьць адна з тых рысаў у творчасьці, якая адрозьнівае мастацкі твор ад немастацкае, голае агіткі. З гэтага боку, між іншым, цікавым зьяўляецца роман расійскага пісьменьніка нябожчыка Неверава „Гусі Лебеді". У гэтым романе паказан таксама поп, але ён паказан як жывы чалавек, з усімі сваімі адмоўнасьцямі і дадатнасьцямі. Ён паказан, як наш клясавы вораг і адначасна, як добры сем'янін, зборлівы гаспадар і г. д.

Тут разгледжана некалькі больш-менш характэрных апавяданьняў, якія зьведзены аўтарамі на ступень агіткі. Тыя чалавечыя зломы, тыя падзеі і зьявы, якія закрануты ў апавяданьні „Тры сьмерці", чакаюць свайго мастака. Над мастацкім творам трэба шмат працаваць; трэба твор адчуць, доўга і пільна над ім думаць, вынасіць яго ў сабе.

Бяручы тыпічныя ўзоры агіткі і глыбокага мастацкага твору, можна сказаць: агітка жыве адзін дзень, глыбокі мастацкі твор жыве сталецьці і тысячалецьці. Гэта ўсё кажам дзеля таго, каб даць некаторыя тлумачэньні маладым аўтарам, каб высьвятліць некаторыя палажэньні. Цяпер, калі наша будаўніцтва прыняло, адносна, спакойныя формы, цяпер патрэбны больш сталыя літаратурныя творы. Цяпер трэба агітаваць ня словамі, а фактамі. Маладым аўтарам трэба вучыцца паказваць жывых людзей. Трэба не забываць, што літаратура—гэта адмысловая, так сказаць, вінтоўка, якою мы змагаемся на нашым мірным фронце. І ясна, чым лепшая будзе якасьць у гэтай „вінтоўкі", тым большая будзе карысьць ад яе. Некаторыя людзі, якія ўсвоілі думку, што літаратура ёсьць зброя клясавага змаганьня і, падыходзячы да гэтага пытаньня, як кажуць расійцы, „упрощенчески", якраз, сьвядома ці несьвядома патрабуюць голае толькі агіткі. Ня могучы адрозьніць канцэлярскую інструкцыю ад мастацкага твору, яны толькі зьбіваюць з тропу маладых аўтараў.

У наступных працягах гэтага артыкулу разгледзім далейшыя апавяданьні маладых аўтараў, абгаворым пытаньні, якія вынікаюць у часе работы: тое, што называюць мастацкаю праўдаю, некаторыя стылістычныя спосабы маладых аўтараў, тэматыка, падыход да тэмы, асаблівасьці мовы, элемэнты народнае казкі ў стылю і мове маладых вясковых аўтараў, таксама пытаньне—народная казка і літаратура і іншыя пытаньні, якія вынікаюць у часе работы.

Вельмі было-б добра, каб вясковыя аўтары надсылалі свае думкі і заўвагі да ўсіх гэтых пытаньняў. Каб маладыя аўтары самі ўзьнімалі тыя літаратурныя пытаньні, якія іх цікавяць.

---

# Кастрычнік і замежная літаратура

**Зьм. Сьнежка**

У той час, калі ў нас, пасьля Кастрычнікавае рэволюцыі зьявіліся цэлыя шэрагі паэтаў рэволюцыі, калі пачала расьці пролетарская літаратура у той час як на Захадзе, так і на Ўсходзе немагчыма было зусім ставіць проблему пролетарскай рэволюцыйнай літаратуры.

У паасобных краінах меліся толькі нявялікія творы паасобных пісьменьнікаў, якія самі выйшлі з рабочай масы, але іх творчасьць не заўсёды пайшла па пролетарска-клясаваму шляху.

Толькі крыху пазьней, калі ўжо і ў Савецкай краіне больш менш аформілася пролетарская літаратура—на літаратурным небасхіле Ўсходу і Захаду пачалі зьяўляцца паэты, якія пачалі зьвязваць сваю творчасьць з нашым Кастрычнікам, паэты—зачынацелі пролетарска-рэволюцыйнай літаратуры ў свайой краіне. Творы гэтай літаратуры маюць сваю адмысловасьць, яны вельмі блізкі да публіцыстыкі, у іх мала мастацкай пролетарскай творчасьці, у іх толькі заклік да змаганьня. Гэта тлумачыцца тым, што змаганьне пакуль што ідзе на фронце палітычнай і экономічнай барацьбы і што няма вострых рэволюцыйных момантаў.

Рэволюцыя ў Нямеччыне высунула цэлы шэраг паэтаў (Брод, Штэрнгэйм, Леонгард, Газенклевэр, Эдшмідт і інш.), якія ўрачыста сустрэлі рэволюцыю. Яны пісалі вершы і раманы прысьвечаныя «рэволюцыі духу», напісаны яны былі ўсё ўрачыста... але гэтыя паэты потым скаціліся да буржуазіі, у іх не хапіла сілы „перайсьці Рубікон"—стаць на барыкады ў шэрагах пролетарыяў.

Засталося некалькі пісьменьнікаў, якія змагаліся на барыкадах, папалі ў турмы нямецкай рэакцыі і назаўсёды адракліся ад буржуазнай ідэолёгіі. Сярод гэтых паэтаў трэба адзначыць Эрыха Мюзама, Ф. Юнга, Эрнэста Толлэра, Іога-

нес Бэхэра, М. Бартэля і інш. У некаторых з іх ня было выразнай клясавай сьвядомасьці, таму часта яны зьбіваліся з сапраўдна-рэволюцыйнага шляху (Мюзам Толлэр). Іх творы—гэта яскравыя малюнкі гэроічнага змаганьня нямецкіх пролетараў і іх жыцьця (Ф. Юнг- «Чырвоны тыдзень», „Рабочы пасёлак"),—гэта сьпевы аб «сакавікоўскай буры», аб «чырвоным Ленінградзе» (М. Бартэль) аб краіне Саветаў, аб Кастрычніку ў Расіі, сьпевы заклiку да барацьбы супроць Вільгельмаўскай манархіі (І. Бэхэр).

Ува Францыі Кастрычнік адбіўся таксама на літаратурным жыцьці. Анры Барбюс арганізуе пасьля скончэньня вайны аб'яднаньне пісьменьнікаў, куды сьпярша ўваходз. амаль усе пісьменьнікі Францыі, але потым застаюцца толькі рэволюцыйныя. З „Клартэ" выйшлі А. Барбюс, Вайян Куцюр'е, Анры Гільбо.

Творчасьць гэтых паэтаў праходзіць пад знакам спачуцьця Кастрычнікавай Рэволюцыі і Савецкай Рэспубліцы наогул, пад знакам антымілітарызму, змаганьня з францускай буржуазнай культурай—з імпэрыялізмам.

А. Гільбо піша пра Леніна і Лібкнэхта, пра «Чырвоны Крэмль», А. Барбюс скідае путы буржуазна-мяшчанскай ідэолёгіі („сьвет"), расказвае праўдзіва аб зьдзеках у румынскіх засьценках, прапагандуе за ўтварэньне «Інтэрнацыяналу думкі» ў роўналежнасьць Інтэрнацыяналу народаў.

На Далёкім Усходзе, у Кітаі, нацыянальна-рэволюцыйны рух парадзіў літаратурную рэволюцыю. Гэтая рэволюцыя праходзіла ў двух напрамках: першы—гэта барацьба за агульна-зразумелую, больш простую мову, мову на якой гутараць між сабою кітайцы бай-хуа замест старой літаратурнай вельмі цяжкай мовы—вэнхуа. Другі кірунак літаратурнай рэволюцыі—было змаганьне за новую „народную літаратуру, літаратуру рэальную—грамадзянскую".

Змаганьне за новую літаратуру прынясло рэволюцыянізаваньне самага зьместу літаратурных твораў. Гэта рэволюцыянізаваньне праходзіла і праходзіць пад уплывам Кастрычнікавай Рэволюцыі ў нас.

У літаратуры, як наагул і ў публіцыстыцы, зьяўляецца шмат твораў аб Кастрычніку, аб Леніне і аб паасобных падзеях як у Сав. Рэспубліцы, так і ў адносінах паміж Сав. Рэспублікай і Кітаем.

„А сёньня ў СССР вітаю я пролетарыята
дыктатуру
Свабоды ўсясьветны пажар!"

гэтак піша ў сваім вершы паэта Цзян-гуан-чы.

Пасьлякастрычнікавая эпоха зьяўляецца для Кітаю эпохай нацыянальна-рэволюцыйнага выбуху. Літаратура,—я кажу аб пролетарскай літаратуры,—носіць характар заклiку да змаганьня, дзе гарачы энтузыязм вышэй халоднай развагі. Рэволюцыя зачапіла ўсе бакі кітайскага жыцьця, і літаратура, як люстра, адбівае гэтае змаганьне на ўсіх франтох. Уплыў Кастрычніка, асабліва з яго энтузыязмам і гэроізмам, зьяўляецца вельмі значным у сучаснай пролетарскай поэзіі Кітаю.

У Баўгарыі—краіне моцнага рэволюцыйнага руху ў пасьлякастрычнікавую эпоху і жудаснага цанкоўскага тэрору потым, Кастрычнікавая рэволюцыя адбілася на паэтах, якія гуртаваліся навокал часопісаў, газэт: „Рабочы Весьнік", „Моладзь", „Чырвоны Сьмех", „Маладая Праўд „Народная Армія" і інш.

Гэта група паэтаў з першых сваіх кро зьвязала сваю творчасьць з змаганьнем за волюцыю ў сваёй краіне. Шмат паэтаў і за нула ў гэтым змаганьні.

На чале гэтай групы стаяў малады здо паэта Хрыста Сьмірненскі (Ізьмірліеў), ён загі у часе тэрору Цанкова. Творы баўгарскіх п таў таго часу (часу ўзмацненьня рабочага р ў Баўгарыі) былі поэзіяй заклiку да змаганы за Кастрычнікавую рэволюцыю ў Баўгар Толькі некаторыя з гэтых твораў давалі мал кі жыцьця пролетараў (Вугляконы, Зімні веча Сьляпы, „Братчетата на Гаврош"—Х. Сьмірне скага і інш.).

Іх сьпевы—гэта марш рэволюцыі, якая ід

„нібы хвалі чырвоныя
рушылі прыступы буйныя"...

„Дзень рэволюцыі Кастрычніка ў Баўгар прыдзе!".

У гэта вераць, за гэта змагаюцца. Але гэт му гэроічнаму пэрыяду,—пэрыяду заклiку б нанесен вялікі ўдар цанкаўскім пераварота Шмат паэтаў загінулі, шмат папала ў турмы, некаторыя кінулі свае сьпевы заклiку і завя ся „чыстым мастацтвам", не зачэпліваючы ў ў сваіх творах рэволюцыйных тэм. Толькі апошнія два гады ізноў зьявіліся некалькі п таў—прадоўжнікаў справы пісьменьнікаў п шага пэрыяду. Але гэтым паэтам даводзіц працаваць у ўмовах цяжкага цэнзурнага ўціс і гэта не дае ім магчымасьці прасьпяваць св сьпевы так, як гэтага хацелі-б яны самі. Гэт паэты гуртуюцца навокал часопісі „Накавальн і літгрупы „Ведрына", сярод іх ужо магчым адзначыць пісьменьнікаў і паэтаў: Д. Палякон А. Страшымірава („Хоро"—роман, які быў ка фіскаваны ў Баўгарыі), К. Панчава, Л. Чавдар Андрэя Каменградава, Страхіля, Г. Паўлав К. Пенява, Ст. Віхра і шмат іншых. Шмат здол ных паэтаў Баўгарыі згінула ў турмах ад рук к таў. Тыя-ж, што засталіся—у вершах і ў про сымбалізуюць Савецкі Саюз і Кастрычнікаву рэволюцыю ў сваіх творах, каб гэтым „мінуп конфіскацыі". І як толькі не сымбалізуюць С вецкі Саюз... і ружай чырвонай, што цьві адна ў „акружэньні дрэнным..." і з паравоза новым, якім кіруе «агульная» рука. Толькі г так цяпер маюць магчымасьць пісаць баўга скія паэты, бо інакш іх творы ня ўбачаць сьвет

У Англіі ня толькі ўплыў нашай Кастры нікавай рэволюцыі, але і цэлы шэраг унутраны прычын, як эконамічныя вынікі вайны, зм ганьне калёнiй за сваю незалежнасьць, узма неньне рабочага руху, пагоршаньне эконамі нага становішча пролетарыяту, а таксама іншы прычыны дапамаглі разьвіцьцю пролетарска літаратуры. На літаратурнай ніве зьяўляюц капальнікі Дж. Уэльш, Род, Дожаллер, Га Хэзлоп, Ф. Бодэн, муляры: Сін О'Кэзі, матро докэр Ліэма і О. Флагэцці, потым Роўландэр Кэнні, С. Хайда, Рыч, Фокса і інш.

У Амэрыцы, да паэтаў, на якіх адбілас Кастрычнікавая рэволюцыя, трэба аднесьці піс меньнікаў і паэтаў Джозэфа Фрымэна, М. Голь да, К. Сендберга.

Паэты гэтых дзьвёх апошніх краін творац у краінах з моцна разьвітай капіталістычнай сы стэмай, у краінах, дзе буржуазная культура ма

шмат „спакусаў“, якія вельмі часта зьбіваюць рэволюцыйных паэтаў з шляху сапраўдна-рэволюцыйнага. Такія пісьменьнікі робяцца пісьменьнікамі шаблённага трафарэту—пісьменьнікамі прыгодніцкіх раманаў.

Там, дзе не было рэволюцыі, альбо дзе яна ня мела посьпеху—немагчыма ўтварэньне сапраўдна-рэволюцыйнай літаратуры. У краінах, дзе рэволюцыю прыдушылі—гэта адбілася на літаратуры. Але ўсё-ж такі ў творах застаўся заклік да змаганьня, засталося адбіцьцё згуртаваньня сіл для новых боек. Кастрычнікавая рэволюцыя і эпоха грамадзянскіх боек, будаўніцтва соцыялізму ў Сав. краінах—натхняюць замежных рабочых пісьменьнікаў, даюць вялікі матар'ял для іх творчай працы.

І калі ў лягеры буржуазных пісьменьнікаў Кастрычнікавая рэволюцыя сустрэла зусім зразумелую варожую контр-атаку—заклік да згуртаваньня ўсіх сродкаў буржуазнай культуры супроць надыходзячай пагрозы сусьветнага Кастрычніка—супроць СССР—лягер пролетарскіх пісьменьнікаў адказвае на гэта сваёй гатоўнасьцю абараняць Савецкі Саюз.

І кожны крок перамогі Сав. Саюзу на эканамічным, культурным або палітычным фронце загартоўвае пролетарскіх пісьменьнікаў розных краін да змаганьня за сусьветны Кастрычнік, да пабудовы соцыялізму на ўсім абшары зямное кулі, пабудовы ў якой прымуць удзел рабочыя і сяляне Ўсходу і Заходу.

**АД РЭДАКЦЫІ.** **Артыкул гэты поўнасьцю не ахапляе пастаўленага пытаньня. Так, аўтар ня ўспомніў такіх пісьменьнікаў, як Э. Сінклер, П. Істраці, ня ўспомніў некаторых вэнгэрскіх пісьменьнікаў і інш., якія ў сваёй творчасьці адбіваюць жыцьцё і змаганьне рабочых.**

# Кастрычнік і беларуская кніга

## К. Г.

Да кастрычніка 1917 г. беларуская кніжка была нейкім пасынкам. Царскі лад уціскаў і нацыянальна і соцыяльна беларускі народ і яго мову, разам з іншымі, падуладнымі царскай Расіі. Царызм задзірваніў беларускую вёску цемрай і невуцтвам, аднак, праз гэты дзірван здолела прабіцца беларускае слова ў друк.

У 1884 г. беларускія студэнты Пецербурскага унівэрсытэту выдаюць гэктографічным спосабам зборнік „Гоман“. І з гэтага часу, бы тыя ластаўкі, кніжачка за кніжачкаю рыхтуюць вясну беларускага друкаванага слова. Да 1906 г., выходзіць з друку прыблізна каля 25 назваў. У большасьці—гэта былі кніжачкі популярна-палітычныя, якія мелі на мэце абудзіць сьвядомасьць беларуса.

У 1906 г. у Пецярбурзе заснавалася Беларуская Выдаўніцкая Суполка—„Загляне сонца і ў наша ваконца“. Адначасна, бадай, пачынае весьці выдавецкую справу і газэта „Наша Ніва“. У пачатку 1908 г. у Вільні ўтварылася выдавецтва „Наша Хата“. Яны за час свае дзейнасьці выдалі каля 70 назваў. Па большасьці гэта была мастацкая і палітычная літаратура. Потым з 1917 да 1920 г. рознымі асобамі было выдадзена 34 назвы (разам з часопісамі) розных кніжак.

Кніжкі тады выдаваліся коштам аўтараў, на ахвяры асобных людзей. Тыраж кніжок быў не вялікі. Кніжачкі былі тоненькія.

Так было да Савецкае ўлады.

З прыходам Савецкае ўлады ў Менск (1920 г.) пачалася шпарка разьвівацца, разам з усімі галінамі будаўніцтва, і выдавецкая справа. За опэрацыйны 1920-21 г. на беларускай мове было выдадзена 22 назвы ў ліку каля 200.000 экз. Друкарскія сродкі Менску не дазвалялі даць кніжак так шмат, як гэтага вымагала школа. І Саўнаркомам БССР выдаў грошы, на якія было надрукавана ў Бэрліне для Беларусі 10 назваў (68 др. арк.) у ліку 138.500 экз.

Узмоцнены попыт на Беларускую кніжку выклікаў (красавік 1922 г.) утварэньне коопэрацыйнага выдавецкага т-ва „Адраджэньне“, якое потым атрымала назву „Савецкая Беларусь“

Зразумела, існаваньне 2 выдавецтваў значна павялічыла лік бел. выданьняў. Так у 1923 г. было ўжо выдана 59 назваў, 462,5 аркуша, 410.300 экз., што проці 1921 г. (без газэт) дае павялічэньне (у назвах) на 170 процантаў і проці 1922 г. на 206 процантаў.

У верасьні 1924 г абодвы Выдавецтвы былі аб'яднаны ў Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. І з гэтага часу дзейнасьць Выдавецтва расьце бязупынна. Каб пераканацца ў гэтым даволі глянуць на наступную табліцу:

| Выдадзена ў | 1924—25 г. | 1925—26 г |
|---|---|---|
| Назваў . . . | 142 | 138 |
| Друк. арк. . . | 873 | 1079 |
| Экзэмпл.. . . | 1.559.500 | 1.150.000 |
| Адбіткаў . . . | 11.202.500 | 11.210.962 |

| Выдадзена ў | 1926—27 г. | Разам |
|---|---|---|
| Назваў . . . | 166 | 446 |
| Друк. арк. . . | 1339 | 3291 |
| Экзэмпл.. . . | 942.000 | 3.651.500 |
| Адбіткаў . . | 9.838.627 | 32.251.189 |

Тут пададзены толькі лічбы па Дзяржаўнаму Выдавецтву. Калі-ж узяць і другіх выдаўцаў на Беларусі, як „Маладняк“, Інбелкульт, Наркоматы і інш., то тады лік гэты на шмат павялічваецца. Так, толькі за першую палавіну 1927 г. (студзень—чэрвень) выдана:

| | Усімі выдавецтвамі | З іх Бел. Дзярж. Выд. |
|---|---|---|
| Назваў | 301 | 69 |
| Друк. арк. | 1545 | 482 |
| Экзэмпл. . | 693.635 | 362.500 |
| Адбіткаў | 5.256.220 | 3.397.800 |

Гэта ўжо ня рост, а росквіт беларускае кнігі на Беларусі.

Урэшце трэба адзначыць, што беларуская выдавецкая дзейнасьць расьце ня толькі ў сэнсе павялічэньня колькасьці кніг, але таксама расьце і ў сэнсе павялічэньня якасьці кніжнае продукцыі.

Такім чынам, мы бачым, што толькі за Савецкаю ўладаю „заглянула сонца ў наша ваконца“.

# Ліквідацыя пісьменнасьці

Перад намі—зборнік матар'ялаў Магілеўскага таварыства краязнаўства: Назва зборніку гэтакая: „Магілеўшчына, том I пад кіраўніцтвам і рэдакцыяй А. М. Беларусава". На тытульнай старонцы ўгары зьмешчаны два лёзунгі: „Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся" і „Пазнай свой край". Другі лёзунг у лапках. Чаму? (мабыць ужыты ў гіранічным сэнсе). Ведае толькі кіраўнік і рэдактар.

У прадмове зазначана, што „краязнаўчае таварыства цьвёрда і чытальна вызначала шлях" свае працы. Але прагледзеўшы зборнік з жалем трэба адзначыць, што калі ў будучым яно будзе ісьці гэтым шляхам, то можна лічыць, што ў хуткім часе, калі і былі пісьменнымі, якія-небудзь грамадзкія працаўнікі ці настаўнікі (а ў прадмове сказана, што зборнік „дапасоўваўся да патрэбаў нізавых савецкіх працаўнікоў і настаўнікаў"), то ў выніку „працы" такіх кіраўнікоў і рэдактароў усе будуць няпісьменнымі. Вось пісьменнасьць зборніку мне хочацца закрануць, бо пры тэй вялізарнай колькасьці памылак, недахопаў і ўсякіх іншых заган, няма магчымасьці ўсё нават і пералічыць, ня толькі разглядзець у газэтным артыкуле.

Перш усяго **правапіс:** можна бяз жартаў сказаць, што правапіс зборніку, гэта не правапіс, а нейкі канглёмэрат, або проста вучнёўскія спробы няпісьменных людзей. Ад першае і да апошняе старонкі няма адзінага цьвёрда-акрэсьленага прынцыпу. Чужаземныя словы ў розная транскрыпцыі можна сустракаць ня ў межах зборніка, ці артыкулу, а ў межах аднае старонкі ці нават аднаго сказу. Такія, як „соцыялістычны" і „сацыялістычны", „каапэратыў" і „коопэратыў", нават „вытворчасьць" і „вытварчасьць" сустракаюцца ва ўсім зборніку. Пануе пауўнейшая блытаніна ў склонавых канчатках. Напрыклад, пішуць: **„...гурткі пэдтэхнікума" (стар. 3)**, „у краязнаўчым актыву" (стар. 3), у краязнаўчым актыве (старонка 3), „па м. Магілёву" (стар. 86), „у Магілёву", „у тым прынцыпу" і г. д. У гэтых адносінах недакладнасьцяй надзвычайна шмат, але гэта яшчэ паўб'яды. Вось справа з лексыкай і стылістыкай—куды горш.

Такіх слоў як „упраўлиюцца", „абнаружвалі", „натаўхвае", „пакланяліс божаству", „веруць", „у кружцы", „узвылі", „настойвалі", „зеркала", „іконы", „дзеньгі" і шмат іншых сустракаецца ў няэьлічонай колькасьці. Шмат ужываюцца такія формы, як напрыклад: „жывучых", „пагражаўчых", „сьпячаму", „лічыўшых", „працаваўшых", што не ўласьціва беларускі мове. Шмат сустракаецца бяссэнсоўных прыказаньняў: „вумел" (замест „умелі"), „радыв" („радыус"), „навогул" („наогул") і інш.

Вельмі шмат ужываецца такіх слоў і такі стылістычных зваротаў, што, магчыма, самі „кіраўнікі і рэдактары" ды напэўна і самі аўтары гэтых „аздобаў" іх сэнсу не разумеюць. Вось некалькі, прыкладаў гэтых „аздоб": „...адбываюцца **пачасовыя** выстаўкі" (стар. 106); навыдадкі ў **засмок**[1]) запаўнялі" (стар. 157); у музеі маюцца экспанаты „толькі дзякуючы... **астравінай рашучасьці**" (стар. 148); **„чуйны цаніцель** мастацтва" (стар. 104); **„а Баравікоўскім існуець** такое **зданьне**" (стар. 105); „Цікава казка гэта, хоць і надрукавана ў „Вып. бел. літ., вып. I, але **кулічкі** ў кармянскі район праз кнігу вывучыць не магла" (стар. 97) і „Ёсьць **адшліхованыя** манаткі і **сякерні**" (стар. 108); „за тым маюць бронзавыя сярэбряныя і цьветнакаменныя **аздобы**" (103); „на дзеньгах забачым назвы дзяржаў, твары правіцеляў і годы **чаканкі**" (103) „парою чэканка на манетах бываець вельмі прыгожая, што можна залюбавацца, калі глядзець праз павялічальнае шкло" (103); на аддзеле старажытнага мастацтва трэба прыстоіць болей, бо ён выклікаець больш ўсяго **сумленьня** ў даведав льнікаў" (103). Побач з гэтым падаецца ў вочы і такое няправільнае ўжываньне слоў, якое мяняе сабою ўвесь сэнс сказу. Напр. словы „пабіць", „разьбіць" скрозь ужываюцца ў сэнсе „разьмеркаваць", „падзяліць", а ў выніку—вось што: „увесь... матар'ял разьбіт", „вывучэньне нашае экономікі я разраіў-бы разьбіць" і ўрэшце **„сялянскі рух на Беларусі можна пабіць"** (стар. 47).

На старонцы 36, унізе малюнкаў напісана „сярабраны і залаты ключы г. Магілёва дадзеныя гораду Кацярынай II, а на стар. 105 чытаем: „мастацкія ключы ад горада (сярэбраныя і залаты), якія былі паднесяны ёй (Кацярыне)". Хто каму „паднёс"—невядома.

Агулам-жа кажучы, зборнік пакідае самае дрэннае ўражаньне. Гэта проста—калекцыя ўсемоцных недарэчнасьцяй, якія толькі могуць ужывацца няпісьменнымі людзьмі.

На гэтай памылцы трэба павучыцца.

**Валеры Верас.**

[1]) Усюды падкрэсьлена мною. В. В.

Адказны рэдактар **Р. Шукевіч-Трацьцякоў.**



Галоўлітбел № 25251. Менск, 2 друк. БДВ. Надрукав. 12.500